


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 53 (3216) Год LXII | Беласток, 31 снежня 2017 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**З Барысам Пятровічам — старшынёй Саюза беларускіх пісьменнікаў, рэдактарам часопіса «Дзеяслоў», знакамітым празаікам гутарыць Ганна Кандрацюк.**

## Падтрымаць творчы патэнцыял жанчын!

**Ганна Кандрацюк: — Ці Нобельская літаратурная прэмія для Святланы Алексіевіч выклікала ў Беларусі цікавасць да літаратуры? Нешта зрушылася, памянялася ў сферы літаратуры?**

**Барыс Пятровіч:** — Для нашых улад нічога не памянялася. Як не выдаваліся, так і не выдаюцца кнігі Алексіевіч, ні на беларускай, ні на расейскай мовах. Яны прынялі такое становішча, што нібыта нічога не здарылася. Хаця мы ведаем, што больш за 50 краін свету адгукнуліся на гэтую падзею. Пераклады кніг Алексіевіч выйшлі далёка, па ўсіх кантынентах — і ў Аўстраліі, і ў Кітаі. Яна таксама ездзіла з прэзентацыяй у Японію.

На Беларусі сумна вядомая падзея, калі Алексіевіч не пусцілі сустрэцца з чытачамі на Гомельшчыне. Ёй не дазволілі выступаць не толькі ў абласной бібліятэцы, але не дазволілі сустрэцца на яе радзіме, у мясцовасці, дзе яна скончыла школу. Там толькі сабралі яе аднакласнікаў і выпускнікоў, а з простымі людзьмі, жыхарамі гэтай вёскі забаранілі сустракацца.

**ГК: — Нешта незразумелае! А вось хачу спытаць пра такое. У свеце ўсё часцей літаратурай займаюцца жанчыны. Ці з'ява фемінізацыі назіраецца таксама ў «Дзеяслове»?**

**БП:** — Мы ўжо даўно гаворым пра тое, што заўважаецца такая тэндэнцыя — на пачатку ў літаратуру ідзе больш жанчын, да васьмідзесяці адсоткаў, але потым праходзіць час і застаюцца ў літаратуры пераважна мужчыны. У лепшым выпадку застаецца трыццаць-сорак адсоткаў жанчын, астатнія, відаць па жыццёвай дарозе, выходзяць замуж, нараджаюць дзяцей і нейкім чынам адыходзяць ад літаратуры. І калі прааналізаваць нумары часопіса, атрымаецца такое: з трыццаці аўтараў атрымаецца шэсць-сем жанчын. Яны, меншасць у пэўным сэнсе. Гэтая тэндэнцыя прасочваецца на працягу ўсіх нумароў часопіса. Мы ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў гэта заўважылі і надзяляем асаблівую ўвагу з мэтай, каб яны ўсё-такі заставаліся ў літаратуры. Мы дапамагаем выдаць першую кнігу, да гэтага ў нас ёсць серыя *Пункт адліку*. Праводзім таксама конкурс для жанчын на лепшую другую кнігу. Мы ўстанавілі спецыяльную стыпендыю *імя Магдалены Радзівіл* для тых менавіта жанчын, якія працуюць над новай кнігай.

Карацей кажучы, мы стараемся падтрымаць творчы патэнцыял жанчын і гэтая тэндэнцыя датычыць «Дзеяслова» і Саюза беларускіх пісьменнікаў.

А што тычыцца працы, напрыклад, з маладымі, атрымліваецца падобна. У нас ёсць Школа маладога літаратара і ёй кіруюць дзве маладыя дзяўчыны. З маладымі літаратарамі таксама працуюць тры жанчыны. І тое ж самае, калі ўзяць навучэнцаў Школы маладога літаратара, то з дванаццаці можа быць шэсць-сем хлопцаў. Заўважаецца тая самая сітуацыя — у літаратуру ўсё больш ідуць жанчыны, але застаецца, на жаль, пераважна мужчыны.

Мы робім шмат, каб змяніць гэтую сітуацыю, прынамсі яе ўраўнаважыць.

**ГК: — Апошнім часам у Беларусі шмат літаратурных прэмій.**

**БП:** — Быў час, калі дзяржава і асноўныя літаратурныя часопісы перасталі даваць свае прэміі. Засталася адзіная прэмія часопіса «Дзеяслоў», ну і *Гліняны Вялес*, які выдаваўся раз на год. Але недзе з 2010 года пачалася іншая тэндэнцыя. Літаратурныя прэміі сталі з'яўляцца ледзь не штогод. Сёння мы маем *Прэмію Гедройца* для найлепшых празаікаў, маем *Прэмію Дэбют імя Максіма Багдановіча*, прычым яна ўручаецца ў трох катэгорыях: за лепшую прозу, за лепшую паэзію і за лепшы пераклад. Таксама з'явілася *Прэмія за лепшую дзіцячую кнігу*. Ёсць *Прэмія за лепшую перакладную кнігу*, *Прэмія за лепшую кнігу нон-фікшн*, і літаральна нядаўна з'явілася *Прэмія за лепшую паэтычную кнігу імя Наталлі Арсенневай*.

Канешне, гэта вельмі моцна спрыяе, каб пісьменнікі пісалі новыя кнігі, каб яны выдавалі свае кнігі, удзельнічалі ў конкурсах і патрапілі ў шорт-лісты на атрыманне ўзнагароды. Гэта ўсё адэвочна абудзіла беларускую літаратуру. І як бачыце — ва ўсіх, практычна, жанрах. Ад паэзіі па нон-фікшн...

**ГК: — Большасць узнагарод маюць ганаровы характар?**

**БП:** — Не! Усе гэтыя прэміі маюць грашовы эквівалент, прытым не малы. Калі пачыналася *Прэмія Гедройца*, то пераможца адразу атрымліваў 10 тысяч еўра. За другое месца была паездка на творчы адпачынак на цэлы месяц у Готланд, у Швецыю. І за трэцяе месца — выданне кнігі. Зараз *Прэмія імя Гедройца* зменшылася напалову, гэта 5 тысяч еўра. А што датычыць астатніх прэмій, яны практычна роўныя, гэта недзе дзве тысячы долараў. Такія ўзнагароды даюць магчымасць аўтарам напісаць новыя кнігі і выдаць іх.

Для Беларусі гэта істотныя, важкія грошы. Таму ёсць сэнс, каб за іх пазмагаліся пісьменнікі.

**ГК: — А як выглядае справа з мецэнатамі? Ці ўсе ўзнагароды фінансуюць грамадскія фонды?**

**БП:** — Вось тут вельмі надзейна. У Беларусі ўсё часцей з'яўляюцца людзі, прадпрыемцы, мецэнаты, якія самі жадаюць фінансаваць літаратурныя прэміі.

**ГК: — Дзякую за размову.**



■ Міхась Андрасюк і Барыс Пятровіч



**Барыс ПЯТРОВІЧ** — Нарадзіўся ў 1959 г. у в. Вялікі Бор у Хойніцкім раёне Гомельскай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ (1984). Працаваў у абласным і рэспубліканскім друку «Гомельская праўда», «Звязда», «Літаратура і Мастацтва», часопісе «Полымя». З 1990 — адказны сакратар штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва».Калі ў 2002 годзе беларуская ўлада вырашыла шчыльна заняцца творчай інтэлігенцыяй, літаратурныя і мастацкія выданні, што належалі дзяржаве, былі аб'яднаныя ў холдынг з жорстка структураванай сістэмай кіравання і адназначнай ідэалагічнай скіраванасцю — лаяльнасцю да дзеянняў прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, вялікая колькасць літаратараў была вымушаная пакінуць месца сваёй працы. Гэтаксама зрабіў Барыс Пятровіч. У 2002 годзе ён заснаваў і стаў галоўным рэдактарам новага літаратурнага часопіса «Дзеяслоў», які за адносна кароткі час здолеў заваяваць папулярнасць і вядомасць у краіне, зрабіўшыся самым аўтарытэтным незалежным літаратурна-мастацкім выданнем Беларусі. Вакол «Дзеяслова» аб'ядналіся самыя знакамітыя ў краіне пісьменнікі, а таксама перспектыўныя маладыя аўтары, што дало магчымасць паўнавартасна адлюстроўваць сучасны літаратурны працэс. У снежні 2011 г. Барыс Пятровіч абраны старшынёй Рады ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» — найстарэйшай творчай арганізацыі Беларусі, што аб'ядноўвае ў сваіх шэрагах больш за 450 сяброў. У якасці куратара серыі і рэдактара выдаў больш 60 кніг беларускіх аўтараў у серыі «Кнігарня пісьменніка» (сярод іх намінанты і лаўрэаты прэміі імя Гедройца «Час збіраць косткі» В. Казько, «Жанчына і леапард» Т. Барысік і інш.), а таксама больш дзесятка кніг у бібліятэчцы часопіса «Дзеяслоў».

Творы Барыса Пятровіча перакладзеныя на англійскую, французскую, нямецкую, рускую, польскую, чэшскую, балгарскую, славацкую, літоўскую, украінскую і іншыя мовы.

Дэбютаваў апавяданнем «Успамін. Яблыкі» у 1988 (часопіс «Крыніца»). Аўтар кніг «Ловы» (1992), «Сон між пачвар» (1994), «Фрэскі» (1998), «Шчасце быць» (2004), «Жыць не страшна» (2008), «Піліпікі» (2009), «Плошча» (2010), «Спакушэнне» (2013), «Спачатку была цемра» (2013), «Пуціна» (2015).



# Святочныя віншаванні

Часамі, як сядаю пісаць чарговы фельетон, задумваюся, пра што б я сёння пісаў, калі б найноўшая гісторыя Беларусі, сведкамі якой прыйшлося стаць майму пакаленню, склалася крыху па-іншаму. Каб, прыкладам, напачатку дзевяностых гадоў перамаглі нацыянальныя беларускія сілы. І каб менавіта тагачасныя „Адраджэнцы”, як мы тады самі сябе называлі і так называлі нас нашы непрыяцелі, пачалі будаваць будучыню сваёй краіны, надзеленыя на тое ўсёй паўнатой улады.

Напэўна было б багата падстаў і для іх крытыкі. Напэўна месцамі тая крытыка была б бескампраміснай і бязлітаснай. І можа быць і гэткае ж пытанне як і зараз, пра што б я пісаў, калі б да ўлады прыйшлі тыя сілы, якія насамрэч прыйшлі і рэальна кіруюць намі сёння, таксама запаўзала б мне ў свядомасць. І папраўдзе гаворачы, наўрад ці я змог бы адгадаць і палову тых тэм, якія прыходзіцца падымаць цяпер.

Ну, як у той паралельнай рэальнасці можна было б здагадацца, што сама ўлада незалежнай дзяржавы можа зневажаць мову тытульнай нацыі, да якой, дарэчы, тойсёй з гэтай улады і сам належыць. А зараз ой колькі напісана пра гэта! Каб сабраць гэтыя матэрыялы ў адно, то прыйшлося б выдаць іх вялікім шматтомнікам пад назвай, якая б абавязкова ўтрымлівала словы кшталту „генацыд”, „ганьба” і „свядомае знішчэнне”. Менавіта свядомае. І каб прыйсці да такой высновы, трэба было рэальна і актыўна паўдзельнічаць у складанні таго шматтомніка, бо толькі багаты досвед у гэтай справе можа прывесці да такой, здавалася б, алагічнай і абсурднай высновы.

Ну, вось стаіць у цэнтры Гародні зараз віншавальная шыльда. Яна віншуе мінакоў з Новым годам аж на чатырох мовах. На англійскай, польскай, літоўскай, і, канешне, ж расейскай. Расейская там стаіць наперадзе. Беларускай няма нават у канцы. І каб пісаў пра гэта ўпершыню, то ўсё спісаў бы на бязглуздасць нейкага аднаго чыноўніка. Але багаты досвед падказвае, што няма аніякай бязглуздасці. Усё прадумана. Беларуская мова ігнаруецца свядома. Знішчаецца па загадзе звонку. І здзяйсняецца трэба не таму, што яе няма, а таму, што яна яшчэ зрэдку сустракаецца. Вось там недапрацоўкі канкрэтных чыноўнікаў, а тут выразна бачна іх праца. Менавіта праца тых калабарацыяністаў, якія тут нарадзіліся, якія карыстаюцца здабыткамі незалежнасці і гандлююць ёй, а можа хто і цішком прыхаваўшы на ўсялякі выпадак для сябе карту паляка і расійскі пашпарт адначасова.

Яшчэ зусім нядаўна Гародню здзівілі турыстычныя буклеты на чатырох мовах. А якой мовы там не было? Канешне, ж беларускай. Прыпомніце той скандал, які паднялі незалежныя журналісты і да якога далучыліся галасы патэнцыйных турыстаў з-за мяжы. І што адказалі чыноўнікі? І вось зараз чарговае віншаванне ў іх выкананні. Вось іх адказ! Скажыце цяпер, што гэта памылка, а не свядомае і добра абдуманае дзеянне.

Я, як назіральнік за выбарамі, на пасяджэнні гарадзенскай гарадской выбарчай камісіі падняў пытанне, што банер „Выбары 2018” стаіць толькі на рускамоўных версіях сайтаў абласнога і гарадскога выканкамаў. А што, беларускамоўных грамадзян пра выбары інфармаваць не трэба? Я выказаў думку, што гэта парушае не толькі закон аб мовах, але і інструкцыі Цэнтральнай выбарчай камісіі. Камісія не зацікавілася маёй заявай. Маўляў, гэта справа выканкамаў. А што тыя выканкамы, калі сама ЦВК Рэспублікі Беларусь паказвае ім прыклад. На яе сайце для моўнага пераключэння ёсць ажно тры гузікі. Для рускай мовы, канешне ж, хто б сумняваўся. Таксама і для англійскай ёсць. Трэці ж гузік, апошні, для... людзей з кепскім зрокам. І ён таксама ра-расейску.

Так і хочацца сказаць, вучыце, людцы, беларускую мову. Яна паляпшае зрок. Бо калі верыць гэтай трэцяй версіі, то ў беларускамоўных выбарцаў з чым-чым, а вось са зрокам то ўсё ў парадку, бо па-беларуску старонкі для людзей з кепскім зрокам не існуе. Зрэшты як і для выбарцаў з добрым зрокам таксама.

Вось і думаю, пра што б я пісаў, калі б некалі да ўлады прыйшлі тыя, хто шанаваў бы свае традыцыі, культуру, мову... Хіба пачаў бы свой перадсвяточны фельетон даволі банальна. Неяк так: „З Калядамі і Новым годам!!!”. А што, вельмі добра гучыць па-беларуску!!!

**Віктар САЗОНАЎ**

# У імя саперніцтва



Схільнасць да саперніцтва праяўляюць усе жывыя арганізмы на Зямлі. Сутнасць яго складаецца ў тым, каб выжыць. Не свабодны ад яго таксама род чалавечы. Чалавек не моцна адрозніваецца ў гэтых адносінах ад лішайнікаў, дубоў, матылькоў або пацукоў. Аднак іншая рэч канкураваць у рамках сваіх уласных відаў за трапечучую какетлівa самачку або сакавіты капусны ліст, а іншая, калі гаворка пра міжвідавую канкурэнцыю. Тут няма літасці! Тут канкурэнцыя няўмольная. І ні ў якім разе за прывялы лісток ці пакамечаную самку. Гэта спрэчка за відавыя прынцыпы, патрабуючыя абсалютнага выканання. Гэта робіцца само па сабе — праз падпоўзванне, падкусванне, высмоктванне, выпіханне, выштурханне. Каб зжэрці, рассячы, выпаліць, расчавіць!..

Любое спаборніцтва можа асуджацца, кажа мой добры сябар з тых дзён, калі я жыў у Варшаве. Яго словы не адмаўляюць дзеянняў. Калі ўжо дапускаецца думка пра якую-небудзь канкурэнцыю, дык толькі з самім сабой. Не для чалавечага прызнання, не для славы. Для сябе. Ён жыве сабе адзін у старой камяніцы на Жалібожы, у двух кроках ад блізнюка — па супадзенні — дома на знакамітай вуліцы Навагродзкай. Калі «Навагродзкая» цяпер з'яўляецца сінонімам нястрымнага чалавечага славалюбства, якое з'яўляецца адзіным выхадам у змаганні за ўладу, за ідэалагічныя рацыі, за здабыткі калектыўнай памяці, дык дом майго сябра — абсалютнае адмаўленне гэтага. Ён як аазіс адлюстравання стану чалавека, пагружанага ў цемры Космасу. «З Космасам мне спаборнічаць?» — нязменна пытаецца мой сябар. — «А чаму не?» — пытаюся я. А калі не з Космасам, дык хаця б з чалавечым невуцтвам. А ён мог падняцца па лесвіцы сацыяльнай іерархіі вельмі высока. Ды намагані ўзабрацца па прыступках грамадскай іерархіі ці чалавечай увагі выклікаюць у ім хранічную агіду. Ён пастаянна пашырае свае веды, хаця з'яўляецца магістрам трох факультэтаў. Зацікаўлены ён у генетыцы і касмалогіі, філасофіі і гісторыі мастацтва. Вывучае мовы. Асвоіў вусна і пісьмова ўжо шэсць ці сем моў, і яшчэ яму мала. Цяпер даследуе санскрыт. Хоча чытаць у арыгінале стараіндускія «Веды» для свайго ўласнага задавальнення.

Саперніцтва паміж людзьмі ці народамі ў цэлым і, у прыватнасці, паміж ідэямі, вучэннямі, светапоглядамі ці дзяржаўнымі ладамі стымулюе цывілізацыйны прагрэс. Гэта факт. Канкурэнцыя — як разліты вясновымі дажджамі горны ручай, непрадказальны, трывожны, але які прыводзіць да змен у рэальнасці. Без канкурэнцыі, часам пагібельнай для чалавецтва, мы засталіся б чалавекападобенцамі. Але цікава, куды б гэта нас прывяло...

Усе міжвідавыя бітвы людзі ўжо выйгралі. Як калісь ГП і ПіС паводле славутага выказвання прэм'ер-міністра Туска — не маюць з кім канкураваць. Жывёлы, расліны былі засарамачаны паразай. Амазонія, Белавежская пушча, сібірская тайга з усёй іх біяразнастайнасцю раслін і жывёл адступіліся перад чалавечай цывілізацыяй. Акіяны пагадзіліся на гэта, каб дзейнічаць у якасці чалавечай клаакі. Выміраюць наземныя і водныя віды. Праз нейкі час застануцца на зямным шары толькі людзі і... мінералы. Але яны не дадуць рады ў канкурэнцыі з чалавекам. Калі хто адмаўляе гэта, хай укіне яшчэ адну рыдлёўку вугалю ў топку... Гэта пытанне аднаго пакалення, можа, двух, калі чалавек сам стане супраць сябе самога. На Зямлі, бясплоднай і апарожненай з мінералаў, але поўнай напыхлівых у сваёй цывілізаванасці істот. Чым жа яны будуць падтрымліваць агонь у печы? Хай памяць аб крэматорыях Асвенціма не будзе няправільна імі зразумета.

У свеце раслін і жывёл саперніцтва паміж відамі стаяла дагэтуль у асаблівай раўнавазе. Маштабы ўзаемнага падгрызвання, а нават загрызвання, смяротная барацьба за жыццёвую прастору паказвалі безумоўную павагу да сябе і іншых відаў. Іншымі словамі, інстынкт выжывання, які праяўляўся прыроджанай агрэсіяй усіх форм жыцця на Зямлі заставаўся ў стабільнай раўнавазе. Але чалавек усадзіў у спіцы Прыроды свой палец. І яе Кола перастала круціцца правільна. Ды гляньце ў Неба — з надзеяй для свайго і ўсіх іншых відаў на Зямлі.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# З марамі і эмоцыямі ў Новы год!

Хочам верыць ці не верыць, але завяршэнне кожнага года прыносіць нам саўдзельніцтва толькі ў адным — ва ўпэўненасці ў зямным праміненні. І ўсе ўзаемная жыццярадасныя пажаданні наконт светлай будучыні сваёй магічнасцю і магнетызмам асабліва вабяць маладзёнаў, якім марыцца як мага хутчэй стаць дарослымі і поўнымі жменямі зрываць і каштаваць забароненыя дагэтуль спакуслівыя плады з дрэва пазнання дабра і зла. Са свайго вясковага дзяцінства памятаю як з гадамі фарміраваліся, мяняліся, здзяйсняліся, або і не, юнацкія мары. І так пэўна ад спрадвеку было і бывае, што ў кожнага дзяцінства зусім іншае разуменне і ўяўленне недасяжнай у дадзены момант дарослiсці. Так як у кожнай эпохі ёсць свая адметнасць і стыль. Ну, аднак, як здаецца на працягу тысячагоддзяў чалавечага існавання пэўныя справы маюць сваю трывалую заканамернасць. І, як гаворыцца на побытавым узроўні, справа кранае ўсіх, ад малога да старога. Зразумела, што гаворка ідзе пра эмоцыі, нашы пачуцці. У выпадку хлапчукоўска-юнацкай мітусні і яе вяйрскай натуры, назіранне і ўгляданне за дзявочым племенем не лічылася ў вачах аднагодкаў справай годнасці малалетніх мужчын. Затое ўмеласць дапячы і надакучыць сваім сёстрам ці аднакласніцам у сваёй кампаніі прыносіла не абы-які гонар. Менавіта ў кампаніі трэба было быць бескампрамісным і бязлітасным у словах і дзеяннях супраць прыгожага полу гэтага свету. А калі давялося быць з дзяўчатамі ў больш прыватных умовах, то з'яўлялася і агульнае зразуменне, і супольныя зацікаўленні, якія з сяброўства надта часта выбухалі першымі, палымянымі каханнямі, што загараліся і таксама хутка спальваліся, як сухое лісце. Але той юнацкі агеньчык быў першым сігналам, што наперадзе чакаюць нас далейшыя, што і раз большыя пажары душ і сэрцаў. Ці ўспыхнутыя полымі патрапілі нас саграваць сваёй цеплынёй, ці проста палілі да жывога сваім агнём? У кожнага свае гісторыі і ўспаміны.

У мяне з дзяцінства па сённяшні дзень засела ў галаве і заўсёды ўспамінаецца прымаўка майго бацькі, які пра невясёлую справу безнадзейна закаханага вясковага кавалера паўтараў заўсёды: «От, улюбіўся, як чорт у сухую грушу». Прызнаюся, што як і тады, у маладосці, так і цяпер мне, даросламу, раскусіць усе складаныя тонкасці гэтага параўнання пакуль не ўдалося. Застаецца яно вялікай таямніцай семантычнасці слова і архетыпу жыцця. Але без іх нельга абысціся роду чалавечаму, які ў сваёй эмацыянальнай ліхаманцы патрэбу псіхатэрапіі пераліў спачатку ў вусную народную творчасць у выглядзе фальклорных песень, абрадаў, прымавак ці замоваў. Вусная народная творчасць гэта таксама жахлівыя легенды і пераказы пра трагічныя лёсы і месцы кахання, якія ўпісаліся ў ландшафтную памяць родных краявідаў. З узнікненнем і развіццём пісьменнасці ва ўсіх народаў і культур менавіта апрача перададзенага нам у спадчыну апісанага космасу багоў і гераізму ваяроў паралельна ішло і апісанне іхніх бураў і войнаў сэрца і душы. Часта менавіта гэтыя справы з'яўляліся прычынай касмаганічных дуэляў і знішчальных войнаў. Учытваючыся ў радкі старазапаветных гісторый, паўсюдна маем там дачыненне да аграмаднай накопленасці такога роду страсцей, вынікам якіх былі здзейсненыя нават самыя цяжкія злачынствы.

Таму тое вечнае спляценне нашай эмацыянальнасці і духоўнасці было, ёсць і, спадзяюся, будзе надалей той натхняльнай крыніцай перш за ўсё для саміх людзей як у іхнім жыцці, так і ў яго культурным выяўленні. Узгадваю ўсе тыя гісторыі невыпадкова. На зломе старога і новага году, усім нашым Чытачам жадаю самых пазітыўных эмоцый, нягледзячы на пражытыя гады ў календары жыцця. Бо менавіта калі вакол нас, здаецца, дэгуманізацыя роду чалавечага мае быць абвешчана новай рэлігіяй, а духоўнасць мае лічыцца адсталасцю, тады ў новым 2018 годзе варта жыць з нашымі няўлоўнымі марамі і эмоцыямі.

**Яўген ВАПА**

# У свеце непрафесійнага мастацтва

Падвядзенне вынікаў і адкрыццё конкурснай выставы XXIV Агляду непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі адбылося 8 снежня ў галерэі Гайнаўскага дома культуры. У аглядзе прыняла ўдзел 31 асоба — жывапісцы, разьбяры і творцы іншых галін мастацтва. Усе яны прад'явілі на конкурс 124 працы. Непрафесійным мастакам вельмі важнае, каб перадаць на сваіх работах уласныя думкі і эмоцыі, але не менш важным з'яўляецца іх варштат працы. На ўсё гэта звярнула ўвагу камісія, якая на конкурсную выставу вылучыла 86 прац 30 аўтараў. Падчас адкрыцця выставы дырэктар Гайнаўскага дома культуры Расціслаў Кунцэвіч і прадстаўнік конкурснай камісіі Іаанна Кярсноўская адзначылі, што мастацкія работы былі падрыхтаваныя на агляд з вялікай стараннасцю. Частка аўтараў жывапісу, рысунка і разьбы выконвае свае работы на высокім мастацкім узроўні, аб чым можна было пераканацца на выставе. Непрафесійныя творцы паказалі акружаючы іх свет так, як яго бачаць і разумеюць. Цікавыя матывы прадставілі на сваіх работах на добрым тэхнічным узроўні асобы з абмежаваннямі, якія перш за ўсё паказваюць свой багаты ўнутраны свет. На конкурснай выставе знаходзяцца працы з краявідамі і матывамі Белавежскай пушчы, нацюрмортам, партрэтамі, кветкамі і, канешне, з абстрактнымі матывамі. Скульптура на выставе тычыцца перш за ўсё постацей і жывёлы, але прэзентуецца таксама абстрактная разьба прызнанага скульптара Славаміра Смыка з Кляшчэляў.

На падвядзенне вынікаў мастацкага агляду прыбылі ўдзельнікі конкурсу, іх сямейнікі, жыхары Гайнаўскага павета. Сакратар Гарадской управы Гайнаўкі Яраслаў Грыгарук разам з дырэктарам ГДК Расціславам Кунцэвічам, прадстаўніком конкурснай камісіі Іаннай Кярсноўскай, мастацкім кіраўніком дома культуры Ядвігай Лях-Кучкін і адказнай за арганізаванне агляду і выставы старшым інструктарам па справах мастацтва Зінаідай Якуць уручылі ўдзельнікам агляду дыпломы і падарункі, а пераможцам конкурсу — статуэткі агляду, дыпломы і ўзнагароды. На мерапрыемства прыбылі таксама намеснік старасты Гайнаўскага павета Ядвіга Дамброўская, ваяводскі радны Уладзімір Пятрочук і прафесійны гайнаўскі мастак Віктар Кабац, які ў мінулым старшынстваваў камісіі Агляду непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі. У пачатку спаткання выступілі дзяўчаты са Студыі песні ГДК. Пасля ўручэння ўзнагарод можна было пазнаёміцца з выставай мастацкіх работ.

— На экспазіцыі апынуліся мастацкія працы, выкананыя на высокім узроўні. Бачым многа скульптуры, колькасць якой на нашых аглядах павялічваецца. Жывапісцы гуляюць колерамі і кранаюць розныя тэмы, — гаварыў дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч.

Першую ўзнагароду ў катэгорыі скульптуры атрымаў мастак з Кляшчэляў Славамір Смык за разьбу па дрэве, без загалоўка.

— Я прыступіў да агляду, каб паказаць сваю разьбу мясцовай публіцы. Мая скульптура пастаянна прэзентуецца ў Кляшчэлях. У Гайнаўскім белмузеі раней была сарганізавана мая персанальная выстава ў рамках праекта «Беларускі алфавіт мастацтва». Мае працы многа разоў паказваліся за мяжой. Цяпер больш паказваю для мясцовага насельніцтва, — сказаў Славамір Смык. — Тут прэзентуецца мая скульптура па дрэве і камені. Раней многа было працы з матывамі жанчын. Зараз пайшоў я ў бок абстрактнасці, што відаць на маіх работах на выставе. На адной рабоце шчыліны ў драўніне я папоўніў металам, які пры добрым асвятленні крыху свеціцца і мяняе выгляд скульптуры. Паказваю таксама працу ў камені. Я заўважыў, што мне нават больш зручна працаваць у камені, чым у драўніне. На абстрактных працах выяўляю пэўныя свае канцэпцыі. Аднак хачу, каб кожны наведвальнік выставы пасвойму ўспрымаў і ацэньваў мае работы, а такую магчымасць стварае мая абстрактная скульптура.



■ Першую ўзнагароду ў катэгорыі скульптуры атрымаў вядомы мастак з Кляшчэляў Славамір Смык за разьбу па дрэве



■ Першую ўзнагароду ў катэгорыі жывапісу атрымаў Дар'юш Вашчынскі з Белавежы за камплект карцін



■ У катэгорыі рысунку і графікі першую ўзнагароду здабыў Януш Кулеша з Гайнаўкі за выкананыя алоўкам партрэты жанчын

Другую ўзнагароду ў катэгорыі скульптуры атрымаў Міхал Коц з Гайнаўкі, які выразвае перш за ўсё выявы постацей у народным стылі і размалёўвае іх.

— На сёлетні агляд выразаў я чалавека, які іграе на гітары і дзяўчынку, якая трымае ў руках сіні шар. На гэтых скульптурах звяртаюся я да музычнага мерапрыемства, якое ў жніўні арганізуецца ў Гайнаўцы, а менавіта да Фестывалю імя Булата Акуджавы, — сказаў Міхал Коц, які апошнім часам на гайнаўскім мастацкім аглядзе ўзнагароджваецца штогод.

Трэцяе месца сярод скульптараў заняў Анатоль Алексяюк з Чаромхі за барэльеф «Зубры», а вылучэнні за разьбу атрымалі Мікола Корх, Мікола Ягадніцкі, Тамаш Кердалевіч і Мечыслаў Дудзін.

— Я здаўна выконваю скульптуру і асабліва люблю займацца мастацкай апрацоўкай карэння. Сёлета многа прац не выканаў, бо будаваў часоўню ў Дубічах-Царкоўных, — заявіў Мікола Корх з Краськаўшчыны.

Першае месца ў катэгорыі жывапісу атрымаў Дар'юш Вашчынскі з Белавежы за камплект карцін.

— Раней на аглядзе я атрымаў вылучэнне і таму зараз рады, што сёлета заваяваў першае месца. Я родам з Варшавы і з'яўляюся выпускніком беларускай філалогіі на Варшаўскім універсітэце. Разам са мной вучылася мая жонка. Прыехалі мы жыць у родную мясцовасць жонкі. У Белавежы я мог пазнаёміцца з мясцовай культурай, а перш за ўсё з мясцовай рэчаіснасцю. На маіх працах прадстаўлены матывы Белавежскай пушчы, — сказаў Дар'юш Вашчынскі.

Другое месца сярод аўтараў жывапісу занялі Міраслаў Хіліманюк з Гайнаўкі, які нядаўна прэзентаваў свае працы ў Гайнаўскім белмузеі ў рамках праекта «Беларускі алфавіт мастацтва», і Станіслаў Жывалеўскі з Гайнаўкі.

— Я пачынаў з малявання ў рэалістычным стылі. Пасля прабаваў маляваць абстрактныя работы і такія працы выконваю апошнім часам, інакш паказваючы акружаючы свет. На вялікіх карцінах тут прэзентаваных я перш за ўсё гуляю колерамі. Звяртаю таксама ўвагу на агульны выгляд сваіх работ. Прэзентую на працах свае канцэпцыі, але няхай наведвальнік выставы глядзіць на мае карціны і на свой спосаб іх успрымае і ацэньвае, — сказаў Міраслаў Хіліманюк.

Станіслаў Жывалеўскі паказаў акрылавую працу «Маршалак» з выявай Юзэфа Пілсудскага, прымеркаваную да сотай гадавіны незалежнасці Польшчы ў наступным годзе. Трэція ўзнагароды ў гэтай катэгорыі атрымалі Станіслаў Паскробка з Рыбакоў і Марк Сапёлка з Гайнаўкі, а вылучэнні — Мікола Яноўскі, Уршуля Гіншт і Анджэй Краўцоў.

— Пачынаючы з 2003 года займаў я на аглядзе прызавыя месцы. Ад гэтага часу я не прапусціў ніводнага агляду. Тут ёсць магчымасць параўнаць свае карціны да работ іншых мастакоў, а розніца паміж лепшымі жывапісцамі аматарамі і прафесіяналамі меншае, — заявіў Мікола Яноўскі са Старога Беразова, які на гэты раз атрымаў вылучэнне за краявід з Белавежскай пушчы.

У катэгорыі рысунку і графікі першую ўзнагароду здабыў Януш Кулеша з Гайнаўкі за выкананыя алоўкам партрэты жанчын.

— Я выконваю працы ў розных тэхніках, а ў гэтым годзе зрабіў стаўку на рысункі. Раней маляваў алейныя працы з краявідамі і іншымі тэмамі. Свае работы паказваю таксама на іншых аглядах. Заўважыў я, што работы на гайнаўскім аглядзе выкананыя на прыстойным узроўні, — сказаў Януш Кулеша, які ўжо звыш дзесяці разоў удзельнічаў у гайнаўскім аглядзе. Па ацэнцы прафесійных мастакоў партрэты Януша Кулешы выкананы на высокім мастацкім узроўні, а сам мастак — добры псіхолаг, які ўмела на сваіх работах адлюстроўвае характары людзей.

Яцку Некрашу камісія прызначыла другую ўзнагароду ў катэгорыі рысунку і графікі за яго абстрактныя працы.

— Я свае работы выканаў у мяшанай тэхніцы і паказваю на іх мае ўнутраныя эмоцыі. Аднак на іх можна дашукацца таксама рэальных матываў. Няхай наведвальнікі выставы па-свойму ўспрымаюць тое, што заўважаць на маіх працах, — заявіў Яцак Некраш.

Трэцюю ўзнагароду ў гэтай катэгорыі атрымала Дар'я Красько з Гайнаўкі, а вылучэнні камісія прызначыла Юстыне Дэц, Яўгеніі Маліноўскай і Малгажаце Невядомскай. У катэгорыі іншых тэхнік вылучэнне атрымала Францішка Каліноўская з Гайнаўкі за выклейванне цікавых матываў з сухіх раслін. Некаторым наведвальнікам выставы працы спадарыні Каліноўскай, прыгожа апраўленыя ў рамкі, асабліва спадабаліся.

У катэгорыі асоб з абмежаваннямі аўтары таксама выканалі цікавыя мастацкія працы. Раўнапраўныя ўзнагароды атрымалі Барташ Шпаковіч з Майстэрні працатэрапіі ў Гайнаўцы, Марк Сакоўскі і Яраслаў Студзінскі з Сацыяльнага дома ўзаемадапамогі ў Гайнаўцы.

— Мой сын Бартак любіць маляваць і вышываць. Робіць гэта так умела, што на конкурсах атрымлівае ўзнагароды, — сказала Галіна Шпаковіч з Белавежы, мама Барташа Шпаковіча, які атрымаў узнагароду за акрылавую працу «Галава сям'і».

— Бартак Шпаковіч вельмі здольны вучань і ўмела патрапіць выявіць свае эмоцыі на сваіх мастацкіх работах. Маляванне з'яўляецца для яго тэрапіяй, — пахваліла ўдзельніка Майстэрні працатэрапіі яго настаўніца Іаанна Плева.

— На агляд было дасланых многа разнародных прац. На выставе паказаны самыя цікавыя мастацкія работы, выкананыя рознымі тэхнікамі на высокім узроўні, — заявіла прадстаўнік камісіі, мастачка з Гайнаўшчыны Іаанна Кярсноўская. Разам з ёю конкурсныя работы ацэньвалі яшчэ Ліля Вышкоўская і Адам Сляфарскі — інструктары Ваяводскага асяродка анімацыі культуры ў Беластоку, а сакратаром камісіі была старшы інструктар па справах мастацтва ГДК Зінаіда Якуць.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

## Вось, да чаго дакаціліся

Аб тым, што прымаўкі з'яўляюцца мудрасцю народа, вядома здаўна. Рускія кажуць: «Тише едешь, дальше будешь». Каментарый непатрэбны. А што зараз у нас творыцца? Адзін Садом ды Гамора! «Добрая змена» перад выбарамі заяўляла пра паляпшэнне быту працоўнага люду. Абяцала малочныя рэкі з кісельнымі берагамі. Праўда, сцяганосны закон «500+» значна палепшыў лёс шматлікіх сем'яў і быў штуршком для ажыўлення нацыянальнай гаспадаркі. А што далей? «Добрая змена» прагна пачала «перастройку» Трэцяй Рэчы Паспалітай. Так як калісьці зрабіў гэта ў Савецкім Саюзе Міхаіл Гарбачоў. Нават Анджэй Расевіч спяваў у Польшчы прысвечаную яму песню: «Михаил, Михаил, ты построил новый мир». Так у нас робіць лідар ПіС Качынскі. Права і справядлівасць неканстытуцыйнымі законамі падпарадкавала сабе Канстытуцыйны трыбунал, цывільную службу, публічнае тэлебачанне, пракуратуру і паліцыю. Карыстаючыся большасцю ў парламенце, зараз намагаецца падпарадкаваць сабе правасуддзе. А самае асноўнае — раз'яднала народ: хто супраць нас, гэта другі сорт, «здраднікі Айчыны», «камуністы і зладзеі». Працоўны люд стаў у абарону Канстытуцыі і грамадзянскіх правоў. Вулічныя пратэсты ў мінулым годзе і сёлета не стрымалі Права і справядлівасці ў разбурэнні дэмакратычнага ладу. Затым пайшлі дзеянні. Пасыпаліся пагрозы ў адрас парламентарыяў ПіС. Як інфармавалі СМІ, невядомы злачынца абліў вадкасцю невядомага паходжання пасольскае бюро Бэаты Кэмпы ў Сыцэве на Ніжнім Шлёнску, падпаліў і ўчыніў пажар. Дэпутаты Права і справядлівасці баяцца за сваё жыццё і сваіх сем'яў. Ды не толькі яны. Пагрозы паступілі ў адрас парламентарыяў Грамадзянскай платформы — Цэзары Томчука, Агнешкі Памаскай, таксама Кшыштафа Мяшкоўскага з Навачэснай ды іншых.

У інтэрнэце, на фейсбуку аж кішыць ад запісаў поўных горычы, расчаравання і злосці. Вось такое чытаю ў гадавіну ўвядзення камуністычнымі ўладамі ПНР ваеннага становішча. Ці гэта не іронія лёсу і «чырвоная картачка» для лідара ПіС і «Добрай змены»? Варта над гэтым задумацца.

## Сельска-гаспадарчыя пенсіі па-новаму

Дагэтуль земляробы карысталіся прывілеяй пераходу на пенсію ва ўзросце 55 год жанчыны і 60 год мужчыны пад умовай, што выпрацавалі трыццацігадовы стаж на сельскай гаспадарцы. Сельскагаспадарчыя ўстановы і прафсаюзныя арганізацыі хадайнічалі за прывілеяй ранейшага пераходу на пенсію. У аргументацыі заяўлялі, што селянін не карыстаецца ні водпускам, ні выхаднымі, што праца на гаспадарцы даволі цяжкая.

Паводле новага закона, які ўступіў у сілу 1 кастрычніка 2017 года, абавязвае аднолькавы ўзроставы цэнз для пенсіянераў, таксама земляробаў — 60 год для жанчын і 65 для мужчын. Ранейшым законам, які дазваляе перайсці на пенсію ва ўзросце 55 год для жанчын і 60 год для мужчын, могуць пакарыстацца тыя сяляне, якія дасягнулі пенсіённага ўзросту да 31 кастрычніка 2017 года, г.зн. жанчыны народжаныя ў 1962 годзе і мужчыны народжаныя ў 1957 г. і якія працавалі на гаспадарцы не менш чым трыццаць гадоў і плацілі страхавачныя ўзносы ў КРУС. Па новым законе сяляне не змогуць пакарыстацца прывілеяй ранейшага пераходу на пенсію.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Горад

**Хацелася б думаць, што ў Бельску-Падляшскім тэма даўніх жыхароў горада, мабыць, не да канца забытая, паколькі ў сакавіку бягучага года адбыліся ў горадзе І Дні габрэйскай культуры, на пачатку лістапада на вуліцы Казімяжоўскай (у даваенны перыяд — цэнтры габрэйскага жыцця) сімвалічна адкрылі Пляц памяці бельскіх габрэяў, пазней у блізкай бібліятэцы даследчыкі чыталі даклады, з прэзентацыяй жанравых сцэнак з жыцця яўрэяў выступіла бельская моладзь, можна было пакаштаваць габрэйскіх кулінарыяў. Ва ўзгаданых мерапрыемствах прысутнічала многа школьнікаў, якія прыйшлі туды са сваімі настаўнікамі. Бяльшчане атрымалі яшчэ адзін шанц, каб звярнуць увагу на мінулае свайго горада — пад канец лістапада дзённае святло ўбачыла польскамоўнае выданне «Кнігі памяці габрэяў Бельска-Падляшскага», узбагачанае новымі даследчыцкімі матэрыяламі. Затым 11 снежня ў Гарадской публічнай бібліятэцы надышоў час і на прэзентацыю новага выдання, якое апісвае гісторыю горада, яго габрэйскіх жыхароў. Тут аднак моладзі было ўжо толькі пару асоб.**




Задума выдання ўспамінаў пра Бельск-Падляшскі вачыма яго габрэйскіх жыхароў нарадзілася ўжо ў 60-я гады ХХ стагоддзя. Ініцыятарамі былі асяроддзі бельскіх габрэйскіх таварыстваў, пражываючых у Ізраілі ды ў Злучаных Штатах Амерыкі. «Кнігу памяці габрэяў Бельска-Падляшскага» ў першапачатковай, арыгінальнай версіі выдалі ў 1975 годзе ў Тэль-Авіве. Самую важную ролю ў выданні публікацыі адыграла бельская яўрэйская грамада ў Ізраілі, якую складалі эмігранты з міжваеннага часу ды большасць бельскіх габрэяў, якія перажылі вайну. Ва ўступным фрагменце кнігі рэдакцыйны камітэт выдання наконт часу выхаду публікацыі адзначыў: «вельмі позна, бо дваццаць гадоў пасля знішчэння нашай грамады».

— Да гэтай пары тая кніга для многіх людзей была недаступнай, паколькі большасць тэкстаў, якія там знаходзяцца ёсць на ідыш і старагабрэйскай мовах, — лічыць суініцыятар і рэдактар новага выдання Дарафей Фіёнік. — Ёсць таксама і тэксты на англійскай мове, аднак тыя ўжо больш зразумелыя. А нам хацелася проста пазнаёміцца са зместам гэтай важнай кнігі, выдадзенай ужо больш за сорак гадоў таму. Хацелася даведацца, што пра сябе і пра нас — беларусаў, палякаў, пісалі нашы суседзі ў даваенны перыяд. У 2010 годзе Музей малой бацькаўшчыны разам з Музеем у Бельску-Падляшскім наладзіў цыкл сустрэч пад назвай «Слядамі спадчыны габрэйскай грамадскасці Бельска-Падляшскага». Тады ў бельскай ратушы, між іншым, адбылася серыя тэматычных дакладаў, па вуліцы Казімяжоўскай, дзе перад Другой сусветнай вайной жылі яўрэі, адкрылі мы памятную дошку з інфармацыяй на тэму гэтай грамады. Менавіта тады разам з маім сябрам Войцехам Канончукам, які піша артыкулы ў «Бельскі Гостінэць» ды якога карані ў Шчытах-Навадворах і ў Беластоку, мы прыдумалі перакласці тую арыгінальную «Кнігу памяці габрэяў Бельска-Падляшскага» на польскую мову. Перад намі стаяў вялікі выклік, паколькі мовы гэтага выдання не з'яўляюцца шырэй вядомымі ды даступнымі. Тады, трэба нам было знайсці адпаведных перакладчыкаў, патрэбныя былі і сродкі.

Паўстанне новай, польскамоўнай версіі кнігі было прафінансаванае Маршалкоўскай управай Падляшскага ваяводства, Гарадской управай Бельска-Падляшскага ды Габрэйскім гістарычным інстытутам у Польшчы. Працай над перакладамі з ідыш і старагабрэйскай моў заняліся Анна Шыба ды Малгажата Ліпская. Таксама англійскамоўныя тэксты на польскую мову пераклаў сурэдактар выдання Войцех Канончук. Публікацыя складаецца з прадмовы, уступу, а затым сямі раздзелаў, у якіх можна знайсці ўспаміны пра даўнюю спецыфіку заселенага яўрэямі горада, пра рабінаў і іншыя асаблівыя постаці тагачаснага Бельска, арганізацыі ды грамадскія рухі ў горадзе, ёсць і сумныя карткі з гісторыі гэтай грамадскасці — успаміны пра генацыд, вайну. З выдання можна даведацца, як выглядала жыццё тых, якія перажылі. Акрамя перакладу тых раздзелаў, якія знаходзяцца ў выданні з 1975 года, да новай кнігі дабаўлены дадатковыя ўспаміны, сабраныя яе рэдактарамі цягам сямі гадоў працы над публікацыяй. Гэта гісторыя расказаная людзьмі, якія жывуць у розных кутках свету але якіх карані таксама ў Бельску-Падляшскім. Такім чынам у кнізе, між іншым, знойдзем расповеды патомкаў родаў такіх як Бархаты, Рэйткісы. Рэдактарам выдання атрымалася таксама звязацца з унукамі апошняга бельскага рабіна Мошэ Аарона Бэндаса.

— Гэта публікацыя, якая гаворыць аб вельмі важнай часткі гісторыі горада, якая дагэтуль была неапісаная, занядбаная і, калі гаварыць пра сярэдняе ды малодшае пакаленне бяльшчан, яна практычна не існуе, — кажа другі рэдактар кнігі Войцех Канончук. — Таму і ідэяй выдання з'яўляецца вяртанне памяці аб гэтых падзеях мінулага. Праца над нашым польскамоўным выданнем «Кнігі памяці габрэяў Бельска-Падляшскага» не была простай. Варта звярнуць тут увагу на адметнасці прысутныя прыкладна ў старагабрэйскай мове, якая пазбаўленая галосных, таму і пераклад на польскую мову хаця б габрэйскіх прозвішчаў гэта складаная справа. Тут словы падзякі належаць перакладчыцам — Малгажаце Ліпскай і Анне Шыбе. Можам пераканацца аб складанасці іхняй працы гледзячы таксама на колькасць тлумачэнняў яўрэйскіх тэрмінаў, у арыгінале пададзеных на габрэйскіх мовах. Рэдакцыйная апрацоўка выдання патрабавала мазольнай працы ў архівах, асабліва ў гарадзенскім ды ў беластоцкім.

— Так склалася, што я — уладальнік арыгінальнага, першапачатковага выдання «Кнігі памяці габрэяў Бельска-Падляшскага», — кажа мясцовы даследчык габрэйскай культуры Андрэй Вэрэс. — Пераклад на польскую мову лічу вартасным. Змест урэшце будзе даступны шырэйшай групе людзей. Гэта рэгіянальныя запісы, якія тычацца бяльшчан, гарадскога жыцця тут у адносна неадлеглым мінулым. Трэба тут таксама адзначыць, што польскамоўная версія гэта пераклад унікальнай кнігі — выданне з 1975 году з'яўляецца адной з 540 яўрэйскіх кніг памяці, якія паўставалі ў пасляваенны перыяд на тэрыторыі даўняй ІІ Рэчы Паспалітай.

Бельск-Падляшскі ў даваенны перыяд па-за сваімі межамі быў акрэсліваны «ядвабнай торбай». Торба тады была сімвалам бедняка, жабрака, чалавека, які просіць міласціну. Ядваб сведчыў аб тым, як самі жабракі ўспрымаліся мясцовымі габрэямі ці прадстаўляў тагачасную элегантнасць горада. Паводле Дарафея Фіёніка, ва ўспамінах бельскіх яўрэяў наконт жыцця ў горадзе пераважае станоўчы вобраз гэтага месца. Якія-небудзь адмоўныя адчуванні былі хутчэй за ўсё звязаныя з траўмай выкліканай падзеямі Другой сусветнай вайны, кажа даследчык:

— 1938 год у Польшчы быў перыядам агульнай неспрыяльнасці для меншасцей — у тым ліку для нацыянальных і рэлігійных. Фактычна не абмінула тое і Бельска-Падляшскага, але гледзячы на жыхароў горада, не можна было гаварыць аб нейкіх канкрэтных ды масавых дзеяннях. Былі такія моманты, якія можна назваць антысемітызмам. Прыкладна, здаралася, што эндэцкія атрады арганізавалі байкот габрэйскіх крамаў, бывалі і слоўныя сутычкі ды нават бойкі між моладдзю, але такія спрэчкі здараліся і між рознымі групамі хрысціян. Такія акцыі здараюцца і сёння, калі, прыкладна, пераходзім цераз парк у цэнтры горада і бачым там моладзь, якая б'ецца па нейкіх іншых — чым нацыянальныя і рэлігійныя — прычынах. Ва ўспамінах можам заўважыць таксама своеасаблівы вобраз горада як месца, скажам «класнае», з адпаведным шыкам. Хаця тагачасны Бельск не прыналежаў да ліку багатых ды эканамічна развітых гарадоў, мясцовыя габрэі клапаціліся пра чысціню вуліц, заўжды былі ахайна і густоўна апрануты. У іх было таксама высокае адчуванне грамадскай салідарнасці. Здаралася, што калі з'явіўся, скажам, чужы жабрак з-па-за горада, яны яго хутка забіралі з вуліцы, апраналі, мылі ды кармілі таксама, каб не псаваў ён выявы Бельска. Былі вядомыя сваім спачуваннем ды дапамогай людзям у патрэбе, прагай усебаковай адукацыі сваіх дзетак і багатага культурнага жыцця.

Прамоцыя кнігі прыцягнула цэлую залу людзей. Сярод часткі з іх захаваліся ўспаміны пра жыццё і дзейнасць у горадзе габрэйскай супольнасці.

— Габрэі, разам з праваслаўнымі і каталіцкімі жыхарамі тут жылі і былі часткай гэтага горада, — кажа Ірэна Кандрацюк. — Таму і сляды жыцця тут габрэяў, іхняя гісторыя з'яўляецца адначасова гісторыяй нас усіх — бяльшчан і бяльшчанак. У між-

працяг ☞

# з атрафіяй тканкі



■ Войцех Канончук (злева) і Дарафей Фіёнік





ваенны час зразумелым было сужыццё, суіснаванне тут розных нацыянальных груп. Мне, прыкладна, цесць, успамінаючы сваё дзяцінства, згадваў габрэйскія крамы, дзе ён купляў салодкія пірагі, ён дагэтуль помніць смак гэтых вырабаў. Я сама родам з недалёкіх Кляшчэляў, дзе каля палавіны жыхароў мясцовасці ў міжваенны перыяд склалі яўрэі. Калі настала вайна, бацькі хроснай маці майго бацькі — іх прозвішча Маркевіч — цягам вайны ахоўвалі ў сваёй хаце габрэя, дзякуючы чаму ён дажыў да канца вайны. Пасля ён выехаў у Ізраіль. Некалькі гадоў пазней тая ж хросная маці майго бацькі разам са сваёй мамай наведалі сям'ю таго габрэя ў Ізраілі, дзе ўшанавалі іхны подзвіг з часоў вайны — маюць яны там сваё дрэва. Тагачасныя члены сям'і Маркевічаў былі ўзнагароджаны ордэнам «Справядлівыя сярод народаў свету».

— Цікава мне як выглядае тая кніга ўнутры, яе змест, што габрэі пісалі пра месца, у якім жылі, — кажа Ян Шумскі. — Напэўна гэтых людзей сустрэла вялікае няшчасце. Помню, што адбывалася пасля ліквідацыі бельскага гета. Знайшліся тады такія людзі з падбельскіх вёсак ды з самога горада, якія пасля таго як гітлераўцы вывезлі яўрэяў, прыбягалі на тэрыторыю гета і забіралі пакінутыя імі рэчы, прадметы, рухомасці — хто табурэтку сабе панёс, хто падушку.

— Паколькі мае бацькі не былі багатымі людзьмі, мама старалася збіраць ягады, грыбы і тое ўсё яна насіла прадаваць якраз да габрэяў, — кажа Ніна Дмітрук, у прыватнасці маці Малгажаты Дмітрук, якая ілюстравала прэзентаваную кнігу. — Я, канешне, не помню тых, якія пражывалі тут у міжваенны перыяд, бо нарадзілася пазней, але я асабіста ведала аднаго з пасляваенных габрэйскіх жыхароў горада. Якраз у Генрыка Ізбудскага і яго жонкі я здымала кватэру. Ён займаўся ў Бельску перавозам вугалю.

— Я ўвогуле цікаўлюся гісторыяй Падляшша, не толькі гэтай, якая тычыцца прысутнасці тут габрэяў, — кажа гід па Падляшскім ваяводстве Бернадэта Рафалка. — Гісторыя габрэяў часоў Другой сусветнай вайны з'яўляецца аднасна складанай тэмай. Некаторыя тэмы трэба проста добра пазнаць, каб іх зразумець. Я сама родам з Беластока і адмыслова прыехала на прэзентацыю, бо адчуваю, што мушу даведацца крыху больш пра людзей, якія жылі ў рэгіёне Падляшша.

Месца прамоцыі «Кнігі памяці габрэяў Бельска-Падляшскага» невыпадковае. Менавіта тут 110 гадоў раней прадстаўнікі амаль усіх нацый, якія жылі ў горадзе — палякі, беларусы, расіяне і габрэі заснавалі Бельскую публічную бібліятэку-чытальню. Месцазнаходжанне ўстановы мае таксама сваю трагічную афарбоўку. Між іншым у гэтым месцы было бельскае гета. Месца, у якое нацысты ганялі габрэяў гарачым летам 1941 года, знаходзілася дакладна ў межах вуліц Міцкевіча, Ягелонскай, Каперніка і Казімяжоўскай. Грамада жыла тут у вялікай цісканіне, што паўплывала на складаныя санітарныя ўмовы, у сувязі з чым шырыліся там і хваробы. Гета гітлераўцы ліквідавалі ў днях 2-11 лістапада 1942 года. У гэтым перыядзе яўрэі былі зачынены ў жывёльныя вагоны і цераз Беласток вывезеныя ў Трэблінку, дзе пасля выхаду з цягніка траплялі ў крэматорыю. Тых, якіх не вывезлі, расстралялі. Паводле даных Інстытута памяці пакутнікаў ды герояў генацыду, Yad Vashem, польскіх архіваў ды ўспамінаў бяльшчан, падчас вайны загінула 1714 габрэйскіх жыхароў Бельска.

— Зразумела што ценем над кнігай і над гісторыяй бельскіх ды ўвогуле польскіх габрэяў быў генацыд, — лічыць Войцех Канончук. — Раздзелы, у якіх ёсць гаворка пра гібель, налічваюць больш за 100 старонак і гэта самыя кранальныя фрагменты кнігі. Частка бельскіх габрэяў перажыла вайну, было гэта больш за сто чалавек. Большасць гэтай групы ацалела, парадаксальна дзякуючы таму, што была вывезена саветамі ў Сібір у перыядзе ад восені 1939 года да чэрвеня 1941 года. Так склаўся лёс суаўтараў кнігі памяці, Фэйдкэсаў, якіх насамрэч вывезлі разам з маімі продкамі ў Алтайскі Край. З ліку габрэяў, якія трапілі ў Асвенцім, цудам перажыло некалькі чалавек. Усе тыя, якія ацалелі ў час вайны, вярнуліся дамоў пасля 1945 года найчасцей толькі на пару месяцаў. Кялецкі пагром 1946 года давёў да таго, што яны зноў выехалі, гэтым разам у Ізраіль і ўжо назаўжды. Бельск-Падляшскі быў аднак феноменам на фоне іншых гарадоў у Польшчы, у якіх раней быў больш, ды меншы адсотак габрэйскіх жыхароў. Ідзе пра тое што ўсё ж такі тут яшчэ да 1956 году жыло некалькі яўрэйскіх сем'яў. Былі гэта людзі з Сямятыч, Драгічына. Тут яны знайшлі ў меру бяспечную прыстань, пакуль таксама не вырашылі выехаць.

Бельск падчас вайны страціў каля палавіны сваіх карэнных жыхароў. З «Кнігі памяці габрэяў Бельска-Падляшскага» вынікае што пасляваенны горад не быў ужо тым самым, што дваццаць ды нават менш гадоў раней са сваімі габрэйскімі крамамі, установамі, не было таксама пяці сінагог. У пасляваенны перыяд жыў тут толькі адзін карэнны бельскі габрэй, Іосэль Ізбудскі, які памёр у 1993 годзе. Па словах Дарафея Фіёніка, у даваенны перыяд у горадзе сужылі габрэі і хрысціяне (каталікі і праваслаўныя). Хаця ранейшы характар шматкультурнасці горада, маўляў, рэанімаваўся, дзякуючы некалькім яўрэйскім сем'ям, якія жылі тут яшчэ да 1950-х гадоў, можна дайсці на высновы, што Бельску ўсё ж такі не стала яго аднэй з асноўных чалавечых тканак, бо знікла яна па прычыне антычалавечай ідэалогіі. Хочацца пабачыць, у якой ступені да свядомасці цяперашніх бытаў — можа непрысутных на прамоцыі кнігі, але ўсё ж такі жывучых у горадзе або будучых родам з яго — дойдзе сумная праўда пра лёс даўніх суседзяў. Напэўна частцы з іх яна вядомая, але пытанне засяроджваецца на тых, якія гэты раздзел дагэтуль перамоўчвалі ці зусім адкідалі і на тых крыху малодшых, якія падчас прамоцыі кнігі маглі б даведацца намнога больш пра даўніх суседзяў, ды субяседнікаў сваіх продкаў, але з фізічнага пункту гледжання не пакарысталіся гэтай магчымасцю.

Тэкст і фота **Мацея РАЦІНЕЎСКАГА**

## На рэабілітацыйным аддзяленні (14)

Заставалася чатыры дні да заканчэння рэабілітацыі ў «Ракітніку». Гэта няшмат часу для таго, каб правесці размову з цікавымі саўдзельніцамі са Шлёнска. З таго, што выявілі мне сяброўкі ў час апошняй размовы, вынікала, што цікавіліся яны праваслаўнымі цэрквамі і манастырамі, будаўнічай архітэктурай падляшскіх сёлаў ды культурай мясцовага насельніцтва. Рашыў я ў сераду зранку ўзяць інтэрв'ю. Асечка. У час снедання не прыкмеціў гаваркой бландзінкі. Сяброўка заявіла: «Івона паехала ў Гайнаўку ў ПТТК за візамі. Збіраемся зрабіць раваровую эскападу ў Беларусь». Пахадайнічаў я затым за іншым субяседнікам і наладзіў размову з кіраўнічкай Аняй Шаўкала.

— Ці рэабілітацыйныя змены рэкамендуеце штогод курортнікам? Якімі ўмовамі абгрунтоўваеце арганізацыю чарговасці?

— Дагэтуль у летнім сезоне арганізавалі дзве чаргі, — гаворыць пані Аня. — Асноўнай умовай з'яўляецца дастатковая колькасць удзельнікаў, не менш чым дваццаць чалавек. Сёлета меркавалі арганізаваць змены ў ліпені і жніўні. Не хапала адпаведнай колькасці заяў. Таму вымушаны былі адтэрмінаваць чаргу на жнівень. Да вызначанага тэрміну заявы прыслалі адно трынаццаць чалавек. Гэтым лікам вымушаны былі задаволіцца...

— У чым бачыце прычыну так малога зацікаўлення Вашай турыстычнай адзінкай?

— «Ракітнік» не лічыцца курортам, — паясняе субяседніца. — Няма тут рэстаранаў, дансінгаў. Рэкамендуем здаровае паветра, чароўнасць айчыннай жамчужыны — Белавежскай пушчы і смачныя стравы рэгіянальнай кухні. Але не ўсіх гэта задавальняе... Справа ў грашах. Кошт сутачнага прабывання ў «Ракітніку» (начлег з харчаваннем) складае семдзесят восем злотых. Двухтыднёвая змена каштуе ўдзельніку каля 1400 злотых. Пенсіянеры з абмежаваннямі могуць пахадайнічаць за грашовай падтрымкай у Павятовым цэнтры дапамогі сям'і. Але не ўсім хапае грошай. «Цэнтраля» штогод змяншае маставыя датацыі ПФРОН на рэабілітацыю для асоб з абмежаваннямі. А не кожнаму дазваляюць сацыяльна-бытавыя ўмовы пакарыстацца курортнай рэабілітацыяй. І ў гэтым бачу асноўную прычыну, — завяршае спадарыня Аня Шаўкала.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**

## Іх кроў ратуе жыццё

У Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета ёсць шмат заслужаных пачэсных донараў. Сёлета павятовае праўленне Польскага чырвонага крыжа ў Гайнаўцы пастанавіла ўзнагародзіць значкамі „Заслужаны пачэсны донар" І ступені Марту Грэсюк з Нараўкі за 15 літраў крыві ды Яраслава Савіцкага і Багуслава Савіцкага з Бярнадскага Моста, з якіх кожны аддаў па 18 літраў „дару сэрца".

Значкі „Заслужаны пачэсны донар" ІІ ступені атрымалі Ян Карпюк з Нараўкі і Славамір Смольскі з Новага Ляўкова. Яны аддалі па 12 літраў крыві.

Значкамі „Заслужаны пачэсны донар" ІІІ ступені былі ўзнагароджаны Тамаш Сачко з Альхоўкі, Юрка Драўноўскі і Кшыштаф Грыц са Старога Ляўкова, Юрка Адамовіч, Яцэк Копэрэк, Тамаш Скепка і Адам Такарук са Скупава, Пётр Байко, Мікалай Галубоўскі, Лукаш Нікалаюк, Пётр Анісковіч, Давід Радзіванюк, Яраслаў Руткоўскі і Станіслаў Тамберг — усе яны з Нараўкі, Кшыштаф Русакоў і Патрык Сухадола з Семяноўкі ды Станіслаў Сватко з Тарнаполя. Яны аддалі па 6 літраў крыві. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Падарунак на Каляды!




У Беларусі на зімовыя святы — Каляды і Новы год — да дзетак звычайна прыходзіць Святы Мікалай ці Дзед Мароз. Яны прыходзяць уначы, калі ўсе дзеткі спяць, з мяхамі поўнымі падарункаў ды цукерак. У Швецыі на Каляды дзеці чакаюць Каляднага Гнома і гатуюць яму адмысловую калядную кашу з рысу і малака. Але гномы, як і Дзед Мароз, бываюць сапраўднымі і не. Сапраўдных гномаў ніхто не бачыць, але менавіта яны дапамагаюць людзям і ведаюць пра іх усё. Кожныя Каляды гномы вельмі чакаюць свайго каляднага пачастунку. Што можа здарыцца, калі людзі забываюць пачаставаць гномаў каляднай кашай? Пра гэта вы даведаецеся з цудоўнай, авеянай святочнай атмасферай і прыаздобленай каляровымі малюнкамі Свэна Нурдквіста кнігі «Калядная каша», якая толькі што пабачыла свет у перакладзе на беларускую мову Надзеі Кандрусевіч. Гэта яшчэ адна прапанова Саюза беларускіх пісьменнікаў, які ў падсерыі «Каляровы ровар» прапануе беларускамоўным чытачам чарговы сусветны шэдэўр дзіцячай літаратуры. Кожны, хто прачытае гэтую кніжку, інакш гляне на зімовыя святы і ні адной секунды не змарнуе на пустыя гульні.

Кніжку «Калядная каша» можна выйграць у Зорчыных конкурсах.

**(гак)**




Фота Міры ЛУКШЫ

**Вікторыя ПАТОНЕЦ**
Старое Ляўкова, Гімназія ў Нараўцы

## Час

Казалі што сябар — а для мяне вораг.
Што нібы гора не скрывае.
А калі трэба, дый мяне не пачакае.
Гавораць, што можна ад яго атрымаць,
А я толькі трачу.
Кажуць, што малады і добры.
Стары і скупы — я думаю.
Як возьме ў рукі, лёгка не пускае.
Для адных літасцівы, а для іншых бяздушны.
Не магу яго зразумець і цяжка з ім гаварыць.
Цяжка дагаварыцца з часам.

## * * *

Да крыві раняць мяне аковы.
Калі іду, яны ідуць са мной.
Цёмныя рукі працягваюць пальцы.
Душаць.
Не магу сказаць слова,
за горла трымаюць.
Часам смяюцца,
не верацъ, не бачаць.
Калі з'яўляецца агеньчык,
яны яго топчуць цяжкімі ботамі.
Кпяць і плююць у твар.
Раптам...
Штосьці змянілася.
Заціснутыя рукі.
У вачах той затрыманы агеньчык
перамяніўся ў полымя,
няма ўжо слабасці.

# Мароз *(з беларускай міфалогіі)*

Мароз нашы продкі ўяўлялі ў вобразе велізарнага дзеда з лёду. Ён апрануты ў снегавую сярмягу, яго валасы і доўгую бараду пакрывае густы іней.

Калі ў час вялікіх маразоў трашчалі сцены ў хаце, людзі верылі, што ледзяны дзед прысеў на даху. Яны рабілі ўсё, каб задобрыць гэтага страшнага дзеда і заўсёды заклікалі яго на Каляды, воклічам:

— Дзед Мароз! Дзед Мароз, заходзь вячэру есці!

Павер'е пра тое, што Дзед Мароз прыносіць дзецям падарункі — адносна маладое. Гэтая мода ўзнікла толькі пад канец XIX стагоддзя.

**Алена ЦЕРАШКОВА**

**Р**

Запрашае рыбу рак
Разам танчыць кракавяк:
— Не саромейся, сяброўка!
Кавалер я спрытны, лоўкі...
Рак стараецца дарма,
Проста ў рыбы ног няма!

**С**

Сядзіць пад саксаулам
славуты следапыт.
Усё сядзіць, сумуе,
ды на пясок глядзіць.
Сумуе, бо не можа
слядочкі расчытаць.
Хто сёння выбіраўся
пад саксаул гуляць?
Спецыяліст у скрусе,
пачаў ужо злаваць:
— Сарока? Страус? Сойка?
Не! Палярная сава!

**Т**

Тата-тыгр спяшаў дахаты.
Там, у хаце, тыграняты.
Тыграняты проста ў тату:
Паласатыя, стракатыя,
Кіпцюрастыя, вусатыя,
Даўгахвостыя пястушкі —
Тры татусевы дачушкі.

**У**

У нашай Уляны
ізноў не прыбрана.
У школку спяшалася
зранку Уляна.
У ложку падручнікі
грудай начуюць,
У куце падушка
ды коўдра сумуюць.
Бабуля ўздыхне:
— Прыбралася б ты трохі!
Уляна ўздыхне:
— Няма часу, урокі!

**Ў**

Усяслаў узяў рыдлёўку
І граду капае зноўку.
— Што садзіць надумаў,
Слаўка? —
Запытаўся сябра Саўка.
Адказаў яму Усяслаў:
— Анічога. Скарб шукаў.

**Ф**

Франак ды Стэфан
фарбы дасталі.
Фікус з фіялкамі пафарбавалі,
Футра, фіранкі,
пантофлі ды куфар,
Кафлю, футболку,
партфелі ды куфаль,
Фары ў „Ферары”,
форму ды мыла...
Болей фантазіі ім не хапіла.

# Бягучы 2017 год — год Тадэвуша Касцюшкі

**З гэтай нагоды мы прысвяцілі ўжо некалькі артыкулаў Тадэвушу Касцюшку — герою Польшчы, Беларусі і Амерыкі. Сёння вашай увазе прапануем знакаміты нарыс Уладзіміра Арлова «Паўстанне Тадэвуша Касцюшкі».**

**Пасля паланення Касцюшкі**

Пасля паланення Касцюшкі камандаваць узброенымі сіламі паўстанцаў быў прызначаны таксама наш зямляк Тамаш Ваўжэцкі.



**Апошні бой Касцюшкі**

...Сілы змагароў слабелі. Расейскія войскі штурмам авалодалі Пражскім прадмесцем Варшавы. Загадам Суворава ягоныя салдаты вынішчылі ўсіх мясцовых жыхароў, не шкадуючы ні жанчын, ні старых, ні дзяцей.

За ўзяцце Варшавы, якую разам з палякамі абаранялі беларускія паўстанцы, адданы царскі служка Сувораў атрымаў званне фельдмаршала.

Тадэвуш Касцюшка пасля вызвалення з царскай турмы да скону дзён жыў на чужыне.

Нават у старасці ён амаль кожны дзень выпраўляўся на конную прагулку. Конік у былога паўстанцкага камандзіра быў рахманы і кемлівы. Калі па дарозе сустракаўся жабрак, конь сам спыняўся, бо ведаў, што ягоны гаспадар абавязкова дасць гэтаму няшчаснаму чалавеку грошай.



# Сустрэча з журналістам

14 снежня 2017 года ў нашай школе адбылася сустрэча з журналістам **Зміцерам Косціным**. У сустрэчы ў школьнай бібліятэцы ўдзельнічалі вучні 2 «а» класа гімназіі з настаўніцамі беларускай мовы Іалантай Грыгарук і артыстычных заняткаў Бажэнай Вінцонак. Спадар Косцін з'яўляецца супрацоўнікам рэдакцыі праграм для нацыянальных меншасцей Польскага Радыё Беласток. Ён аўтар перадачы «Пад знакам Пагоні».

Падчас спаткання журналіст прыблізіў моладзі аспекты працы радыёрэпарцёра, якая між іншым звязана з падарожжамі ў розныя месцы. Спадар Косцін расказаў нам пра працу пры падрыхтоўцы размовы з маці ксяндза Ежы Папялушкі, а таксама ў нас была магчымасць паглядзець фільмік на You Tube «Папялушка па-беларуску», які аўтар лічыць адным з важнейшых сваіх праектаў. Мы ахвотна задавалі пытанні, на якія журналіст вычарпальна адказваў. Чакаем наступных такіх цікавых сустрэч.

Іаанна ХОМЧУК

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Воўк і лісіца

Высачыў воўк статак аленяў і кінуўся за адным, каб збіць яго з ног. І загнаў сваю ахвяру ў шчыліну і задушыў яе. А тут лісіца выскачыла са сваёй нары. Яна шуганула ў ваду, атрэслася і падбегла да ваўка:

— Дзядзечка воўк, вось і загналі мы нашага аленя! — прамовіла яна задыханым, але надта ласкавым голасам.

Воўк вытрашчыў вочы і адрэзаў:

— А дзе ты палятуха была, калі ганіў яго са шчыліны ў шчыліну?

А ліса на гэта:

— Відаць табе, кумок, ад зацятасці кроў заліла вочы! Як гэта ты мяне не прыкмеціў? Я ад пачатку ва ўсім табе дапамагала. Паглядзі на мяне — я ўся ўпацела ад гэтай гонкі!

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## УВАГА КОНКУРС! № 53-17

**Ён нарадзіўся на страсе,**
**Вялікім вырас пакрысе,**
**На сонцы грэцца ледзь пачаў,**
**Заплакаў моўчкі і прапаў.**
**Л.....**

**(У. Мацвеенка)**

**Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 7 студзеня 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 50: агонь. Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Карнэлія Вшэбароўская, Дамініка Хіліманюк, Тамаш Ваўранюк з Нарвы, Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

Сільвія ГРЫКА
ПШ у Міхалове

## Вёсачка

Над рэчкай Нарвай
Невялікая вёсачка ёсць,
Ад усходу і захаду
Лесам акружаная.
Вакол лугі і палі,
Каля поля раце бяроза і таполя,
Гэта дрэвы нашай зямлі.
Растуць тут і нашы карані.
Прыгожыя тут лугі
на пачатку мая,
Калі тысячы кветак іх прыбірае.
Стаяць дамы з многіх лет.
Прыгожы краявід,
спакойны свет.
Праз вёсачку ідзе
Доўгая і крутая дарога.
Агароднiна і садавіна
У садах і агародах.
Сонца, паветра чыстае.
Ці можа дзе прыгажэй?

## Польска-беларуская крыжаванка № 53-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 49-17:**

Рацыя, клас, вясло, яблык, зрок, какава, як, ара, яна. Кветка, павязка, сябра, словы, лыка, цмок, Ян, ягнятка.

Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйгралі **Аляксандра Якімюк, Аляксандра Бакун** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Амелія Лісоўская, Марыя Ціханюк** з ПШ № 4 у Гайнаўцы, **Альжбета Лісоўская, Клаўдзія Галубоўская, Дар'я Радзівончык** з Нараўкі, **Аляксандра Куптэль, Віялета Смалюк** з Арэшкава.

Віншуем!



Новыя Вершы



Кацярына СЯНКЕВІЧ

# Бачу цябе

* * *

сяджу ў кухні і мяшаю нажом
думкі пра смерць
з думкамі з табой

залаты сум брыдоты пакуты
з касмічнай эсенцыяй
несмяротнасці
укідаю ў суп
змяняю смак шчопцем
імбіру з лімонам
ды не дасалоджваю
мёдам кахання

дбаю аб здароўе
думкі пра смерць з'яўляюцца
кпінай тугі
стомленай, цярплівай

* * *

я здрадзіла табе
са святаяннікам
таму што ты не
прыняў тэлефона
блытаю дэпрэсію
з недахопам гармонаў

* * *

без цябе мае думкі
— кіслая рака крыві
з табою маё сэрца
наперад гоніць
салодкія рэкі

* * *

бачу цябе тым больш выразна
вачыма сэрца
чым даўжэй цябе не кранаю
вачыма цела
ведаюць аб гэтым усе яго пласты
мае вушы засланяюць свае вочы
калі чую твой голас
за мяжой твайго горла
я па-за мяжой тваіх рук
па-за мяжой краіны
ў рамках твайго сэрца
кропка пасля кропкі
дыхаю цяжкасцю
і саладосцю

* * *

колер маіх валасоў

усё больш і больш
прыродны

аднак зялёныя вочы

можна ўбачыць скрозь іх

побач з празрыстаю
шчырасцю скуры

што хавае астылыя
бутоны жаданняў

яны шукаюць вясны

на пустым астылым
вялікім падворку

пласт фарбы ўяўляе сабой
пласт хлусні

адсутнасцю макіяжу
і адсутнасцю
спадзявання

паказваю галізну тугі

* * *

калі ў мяне няма палатна
і фарбы

пішу вершы

адзіныя словы, якімі
ўслых маўчу

іншыя становяцца
невыноснай цішынёй
шуму

некалькіх прымачоў
настроеных на розныя

радыёстанцыі

з якіх ніводная не
з'яўляецца маёй

у рэшце рэшт
кожны з
нас
пуп свету

для кагосьці

або для сябе самога

хіба што забівае свае
думкі цішынёй

* * *

пчала і ружа сёстры

два целы

той жа душы

прыгажэйшая з іх
прычыняе боль шыпам
кахання

якога атрымлівае больш
чым можа

аддаць

што становіцца
прадметам яе пакуты

працагалічка прычыняе боль
джалам зацятасці

робіць усё для іншых

прычыняе боль абранай
душы праўдай
каб абараніць яе

і памерці

* * *

відаць
у левым вуху
дэманы спяць
калі я сплю
баліць мне

* * *

яна прасіла толькі хлеба
з клейкавінай

для святаў

плаціла пажаданнем
здароўя

на ўсё жыццё

* * *

я наладжу цябе

прынясу скрынку
з прыладамі

адкручу гайкі хлусні

зацягну гайкі праўды

выцягну цвікі здрады

зацягну цвікі вернасці

але я магу цябе
паведаміць аб гэтым

толькі тады калі навучышся хадзіць з
параненым сэрцам

павольна

крок наперад

крок за крокам

на фронт

* * *

Мне трэба чагосьці трымацца
Вертыкалі ці кучы
Трымаць цябе за руку моцна як дзіця

Раз я дарослая
А раз не
Вагаюся
Трымаюся
За арэлі
Гайдаюся над сонечнай
уквечанай плоскасцю свету
Не падаю ў космас і не падаю ў ядро зямлі
Часам падаю ад стомы
У розных напрамках
Спыняюся на імгненне
Але прысутнічаю

Часам слухаю песень анёлаў
Для ўкалыхвання малых дзяцей
Бога

*Вільня, снежань 2017 г.*

**Ірэна ЛУКША**
*Гайнаўка*



# Два папары

Яшчэ сорак гадоў таму на адным баку дарогі былі лугі, а на другім — палі.

Кожны ўласнік свайго кавалка луга пратаў сена і пасвіў жывёлу. Кожны ўласнік свайго кавалка поля сеяў збожжа і садзіў бульбу. Пасля збіралі плады сваёй цяжкай працы. Так было ад вякоў. Ніхто не думаў, што будзе інакш. Сяляне не ведалі іншага жыцця і не хацелі змен. Зямля была важнейшая за ўсё. Хто меў многа поля і лугоў, той у сялянскім асяроддзі быў больш вартым чалавекам.

Пасля Другой сусветнай вайны змяніліся ўмовы жыцця. Моладзь пачала працаваць у розных прадпрыемствах у бліжэйшым горадзе. Многа маладых выехала працаваць далёка ад роднай вёскі. Старыя сяляне не мелі сілы рабіць на сваіх загонах. Пасля памерлі. Палеткі і лугі былі ўжо непатрэбнымі. Усё стала ўласнасцю дзяржавы.

З кожным годам мяняўся выгляд поля і луга.

На лугах пачала расці высокая трава. Хутка раслі вольхі і кусты лазы. Летняй парой на кустах лазы паяўляюцца малыя зялёныя кветкі. Сваім выглядам прыпамінаюць малыя кветкі палявой ружы. Калі працвітаюць, высыпаецца насенне, якое дае пачатак новаму кусту лазы. Тут многа тавулы, вербаўніцы і верасаўніцы ды хмелю. Цудоўны водар чуць здалёк ад кветак верасаўніцы. Часта ўбачыш тут аленяў і сарнаў. Казлы часта брэшуць ад страху, як сабакі.

На палетках вырасла шмат бяроз, сосен і дубоў. Растуць кусты малін і ажын. Шмат пустазелля і лекавых зёлак.

Дарога паміж лугамі і палямі зарасла дзярном. Цяпер там сцежка, якую пратапталі жыхары блёкаў, скарочваючы сабе дарогу да сваіх кватэр.

На папарах фатограф, паэт і мастак знойдзе сваё натхненне. Тут прырода жыве сваім жыццём і без людзей сее сваё насенне.

# Мае ўражанні, маё адчуванне, мая радасць



Фота Аляксея Мароза

Песні «Рэха Пушчы» як тыя зоркі ноччу ў снах карагодзяць... Ці то жар-птушка скінула пёркі, ці гэта сонейка ўсходзіць? Песні «Рэха пушчы» «як тыя пчолкі, не пасядзяць без работы, нота да ноты, слоўка да слоўка — музыкі-песень поўныя соты». (Ніна Шклярава, *Млён. Вершы, паэмы, балады 1971-2012*, Мінск 2012, с. 142).

Калі ў горадзе Гайнаўка свята, то ў госці прыязджаюць суседзі з Белай Русі з горада Пружаны. Субота 18 лістапада 2017 года. У Гайнаўскім доме культуры вельмі святочны настрой. Унікальнае свята. Унікальнасць свята заключаецца ў тым, што калектыў песні Гайнаўскага дома культуры «Рэха Пушчы» адзначае свой юбілей. Трыццаць пяць гадоў разам з песняй. Як вады крыніца бруіцца, так бягуць падзеі ў жыцці хору «Рэха Пушчы» Гайнаўскага дома культуры. Здаецца, зусім нядаўна хор адзначаў свой 30-гадовы юбілей, а сёлета ўжо трыццаць пяць. За прайшоўшыя пяць гадоў змянілася многа. «Ваш слаўны юбілей і той яднае час далёкі, яднаюць пакаленні ў адным натхненні. Якую трэба папараць вам даць, каб шлях пражыцці з песняй сёння з намі».

На свята былі запрошаны калектывы «Вербніца» з Белай Русі з горада Пружаны, калектыў «Куранты» з Бельска-Падляшскага. А таксама калектывы з ГДК — танцавальны, спявачы на чале з «Перапёлкай». Канцэрта гэтых калектываў чакаў я з асаблівым хваляваннем, відаць таму, што люблю гэтыя калектывы і іх песні ў выкананні знакамітых артыстак і артыстаў.

У хор «Рэха Пушчы» прыйшлі новыя таленавітыя людзі, змяніўся рэпертуар. За шматгадовы час свайго існавання калектыў развіваўся творча і прафесійна. Шліфаваўся не толькі рэпертуар хору, але расло выканаўчае майстэрства, усталёўваўся склад удзельнікаў, узрасталі прызнанні і павага гледачоў-слухачоў.

Сёння ў выкананні хору «Рэха Пушчы» гучаць беларускія народныя песні, а таксама польскія, рускія і ўкраінскія. Нашы беларускія песні, наш фальклор, наша спадчына — корань роднай зямлі, без якога жыццё марнее, слабее нацыя. Згубіць нацыянальную ідэнтычнасць — вялікая непаўторная страта, — гаворыць Юбіляры, артысты хору. Брава вам вялікае!

Хор «Рэха пушчы» актыўна супрацоўнічае з фальклорнымі калектывамі ў Польшчы а таксама за мяжой. Кіраўнік, дырыжор хору Аліна Негярэвіч прыклала шмат намаганняў, каб «Рэха Пушчы» заваявала папулярнасць. Апантаны, улюбёны ў сваю справу чалавек — яна ўмела аб'яднала самадзейных артыстаў, людзей розных узростаў, закаханых у народную песню. Славуты хор «Рэха Пушчы» характарызуецца актыўнай канцэртнай дзейнасцю не толькі ў Польшчы, але і за мяжой. Даўняе вельмі творчае супрацоўніцтва існуе з удзельнікамі народнага хору «Вербніца» Пружанскага палаца культуры. Пад кіраўніцтвам Івана Іванавіча Гвоздзіка — таленавітага музыканта, кампазітара, творчага кіраўніка. Знакаміты хор «Вербніца» неаднаразова ўпрыгожваў святы якія ладзіліся ў Гайнаўцы: дажынкі, Свята зубра, а «Рэха Пушчы» — на братняй зямлі пружанскай. На юбілей былі запрошаны і выступілі папулярныя славутыя калектывы — з Гайнаўскага дома культуры, групы маладзёжныя — спявачыя, танцавальныя, на чале са знакамітай «Перапёлкай», а таксама мужчынскі хор з Бельска-Падляшскага «Куранты» — узорны, заслужаны хор быў прывітаны вялікімі воплескамі. Якая багатая была праграма і выступленні калектываў на чале з «Рэхам Пушчы»! Далібог, я ніколі не бачыў, каб публіка так цёпла прымала артыстаў!

Пасля выйшаў на сцэну хор «Вербніца» з Пружан. Колькі вядомых твараў! Захапленне запальвалася на тварах слухачоў-гледачоў. Багаты маштаб рэпертуару і разнаколерныя нацыянальныя прыгожыя строі, адценні якіх зіхацелі быццам дыямент. Брава.

Хачу з вялікай удзячнасцю заўважыць, моцна падкрэсліць, што на гэтае свята-юбілей былі запрошаны і прынялі ўдзел войты гмін і дырэктары гмінных асяродкаў культуры. Былі шматлікія дэлегацыі, у тым ліку дэлегацыя хору «Васілёчкі» з Бельска-Падляшскага. Былі дэлегацыі з Міністэрства культуры Польшчы, ад Пасольства Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча, ад Культурнага цэнтра Беларусі, ад адміністрацыйна-асветных улад Ваяводскай управы, духавенства, ад улад горада Гайнаўкі і шматлікіх іншых устаноў... Прыйшоў час афіцыйнага ўручэння падарункаў і адзнак. Аж восем асоб атрымалі дзяржаўныя адзнакі. Брава!

Прадстаўніца з Беларусі, з Пружанскага палаца культуры адзначыла:

— У палякаў і беларусаў ёсць агульнае духоўнае багацце, якое трэба берагчы і мацаваць. Таму трэба даражыць сваімі сувязямі паміж нашымі народамі; шчодра берагчы і шанаваць.

Багатая творчая біяграфія «Рэха Пушчы». Напэўна ніводзін статыстык не змог бы падлічыць, колькі пройдзена кіламетраў дарог. Колькі раз самадзейнікі, гайнаўскія артысты ступалі на розныя сцэны, імправізаваныя пляцоўкі. Колькі раз выходзілі на «біс»! Не будзем пералічваць, колькі ўзнагарод атрымалі кіраўнік хору і яго ўдзельнікі. Шмат іх было, як і кветак, апладысментаў. І добрых слоў, якія выказвалі гледачы.

Вядома, усё пабачанае і пачутае ў час юбілею немагчыма апісаць у кароткай занатоўцы. Скажу толькі: «О, Рэха Пушчы! Краса шыпшыны, а вочы сінія як лён. Вы ад сяброў нашай малой айчыны прыміце нізенькі паклон».

Пасля арганізатары запрасілі гасцей на пачастунак-абед. «Сёння тут пануе радасны настрой, і гэтаму мы вельмі рады. Вы нас саграваеце песняй і душой — накрыты стол сялянскімі дарамі. Нельга адвярнуць ад яго вачэй — святочныя падаваліся прысмакі... І цеплыні мы гэтай вашай рады».

Бо радасць, натхненне, песні народныя беларускія былі і ёсць заўсёды з намі і вамі.

**Віктар БУРА**

## Дэбют

## Жамчужына

*Уладзіміру Гайдуку*

Лёс падарыў табе вялікі талент,
але пакараў адзінотай.
Ты ніколі не наракаў.
Радаваўся кожнай хвіліне.
У глебу сеяў зерне.
Ствараў новае жыццё.
На паперу пераліваў свае думкі.
Пісаў праўду аб жыцці
і сучасным свеце.
Для суседзяў быў дзіваком,
што займаўся вершаплётцвам.
Ты ўжо соль зямлі.
Пакінуў нам вялікую спадчыну.
Ты жамчужына Нараўчанскай зямлі.
Сіла тваіх слоў не праміне ніколі.

## Паэзія

Паэзія гэта не матэматыка.
Тут непатрэбны лічбы і ўзоры.
Тут патрэбныя разумныя словы.
Словы, якія новыя пакаленні
будуць паўтараць як малітву.
У паэзіі мала слоў і многа зместу.
Словы цешаць і раняць.
Прымушаюць нас задумацца
аб усім, што дзеецца навокал.

## Марылька

*Марылі Базылюк*

Мала была госцем на Зямлі.
Бязлітасны лёс пакараў
цябе смяротнай хваробай.
Медыцына была бяссільнай.
Хутка перарвалася
вутлая нітка твайго жыцця.
У спадчыне асталіся
твае поўныя
ўражлівасці вершы.
Кожны год у павуцінні
бабінага лета лётаюць
твае думкі і мары.

## Прырода

Як цудоўна на Зямлі.
Якая разнароднасць краявіду.
Даліны, упадзіны, узвышшы,
горы прасцертыя да неба.
Рэкі, азёры, моры і акіяны.
Столькі святла і цяпла
ліецца з неба!
Як прыгожа апранаецца
Зямля вясной, летам
і багатай пладамі восенню.
Колькі розных колераў і араматаў.
Колькі расце розных яды.
Колькі крыніц пітнай вады...
Усё даражэйшае за золата.

## Цёмная ноч

Здалёк ад вёскі і горада
без зор і месяца
ноч цёмная як сажа.
Часам засвецяць вочы
вольнага ката або сабакі.
Хутка прыблізіцца і знікне
святло самахода.
Уводдалі ўбачыш святло
вулічных ліхтароў,
часам святло з акон дамоў...
У цемры цяжка ісці
без ліхтарыка.



# Засталіся адно ўспаміны (32)

Пілікі — вёска немалая. У шасцідзясятых гадах, калі мы заязджалі з кінаперасоўкай, была там Грамадская рада нарадова, святліца, прадуктовая крама, пажарная каманда. Святліца знаходзілася ў будынку пры шашы Бельск-Падляшскі — Сямятычы. У тым жа будынку з левага боку змяшчаўся клуб „Рух", насупраць з правага боку — крама. Прадаўшчыцай у клубе працавала сімпатычная дзяўчына Ірэна Бах, як не памыляюся. Зала была кваліфікавана на пяцьдзясят пяць гледачоў. На кінасеансах прысутнасць была заўжды „пад норму". На фільмавых гітах („Вінету", „Васкрасенне") прысутнасць была звыш нормы. Тады ўзнікала праблема: што рабіць з гледачамі, якія пазней прыйшлі? Памятаю такое здарэнне. Было, здаецца, гэта на Прачысту. У Бельску і Пiліках „одпуст". На вечаровы сеанс заранеi прадаў я норму білетаў. Сабралася некалькі чалавек пры ўваходзе. Узнікла спрэчка. Тады падышоў да мяне рослы, пухкі асобень і кажа:

— На маю адказнасць маеш прадаць усім білеты.

— Хто ты будзеш, што мне загадваеш? — пытаю.

— Я з міліцыі, — і прад'явіў кніжачку з пячаткай „Komenda Powiatowa Milicji Obywatelskiej w Bielsku Podlaskim". Дарэчы, гэта быў членскі білет ОРМО.

— Дык я патэлефаную ў Бельск і вызаву міліцыю, — заявіў я нахабніку. — Няхай разбяруцца... Падзейнічала. Скандаліст адпусціў і падаўся на вуліцу.

Праўда, шкада мне стала кінагледачоў, таму для некалькіх чалавек прадаў білеты. Ад прадаўшчыцы я даведаўся прозвішча асобеня.

— Гэта вясковы задавака, Міхал Рошчыц, мясцовы камендант ОРМО, — сказала.

У Піліках актыўна дзейнічаў мастацкі калектыў. Кіраўніком быў Пётр Нявінскі. Калектыў паспяхова выступіў у Кузаве. Гэта было на Вадохрышча 19 студзеня 1961 года. Самадзейнікаў запрасіў я, як старшыня праўлення ЗМВ у Кузаве. Вакальна-музычны калектыў састаўляла дзевяць чалавек: Люба Ганін, Ірэна Бах і Лена Фалькевіч — вакалісткі, Коля Сідорскі, Пеця Макацэвіч і Павел Жукоўскі — трыо мандалiністаў ды Пётр Нявінскі і Здзіслаў Кавальчык — гарманісты.

Шыкарна запрэзентаваліся піліцкія самадзейнікі. Канцэрт пачаўся ў 19 гадзін. Святліца была біткам набітая публікай. Прысутнічалі не толькі кузаўцы, але і моладзь з навакольных вёсак. Выступ пачаўся мазурам — народным танцам. Пасля выступіла група мандалiністаў пад кіраўніцтвам Пятра Нявінскага. І ўперамешку несліся польскія ды беларускія песні. Бурнымі апладысментамі публіка ўзнагародзіла дуэт Любы Ганін і Ірэны Бах, якія выканаў „Лясную песню". Сола выступіла Люба Ганін з песняй аб сінявокай „Люцынцы". Доўга не сціхалі бурныя воплескі ў знак прызнання вакалістам. Варта адзначыць, што канферансье ўдала вяла Настка Дабжынеўская. Пасля канцэрта адбылася супольная танцавальная вечарына. Да танцаў падыгрывалі гарманісты Пётр Нявінскі ды Здзіслаў Кавальчык. Музыканты так рэзалі, што танцорам не хапала хвіліны часу на адпачынак. У вясёлай кампаніі і сардэчнай атмасферы хутка мінула ноч. Пры развітанні Коля Сідорскі сказаў: «Не сумуйце, неўзабаве сустрэнемся з вамі зноў!». Калі я пачаў ездзіць з кінаперасоўкай, дык у Піліках меў шмат сяброў-самадзейнікаў. Прытым круг задушэўных кампаньёнаў павялічыўся. З процілеглага боку вуліцы ад святліцы жыло двух Валодзяў Сідорскіх. Аднаму далі клічку „Кепура", другому — „Мэтэнька". Абодва лічыліся быццам бы членамі кіношніцкай сям'і — у вольны час гадзінамі праседжвалі ў машыне, гулялі ў карты, часам пілі піва.

Атракцыёнам Пілік была „агранамуўка", а дакладней кажучы — яе кватарантка, сімпатычная прыгажуня. Яе кватэра знаходзілася непадалёк святліцы, з процілеглага боку сямятыцкай шашы. У летні час дзяўчына ў купальным касцюме загарала ў сонцы на плеценым фатэлі. Кожнага праязджаючага шафёра маніла любоўным зрокам. Нават наш механік, заўзяты „бабнік" Алік ушлёпаўся.

У Пілікі мы заязджалі штомесяц. Па сённяшні дзень захаваўся мілы ўспамін па сардэчных сябрах. З Пілік праязджалі мы ў суседні Дабромiль. Там знаходзіўся сельскагаспадарчы кааператыў. Праўленне кааператыва пахадайнічала ў пажарнай камендатуры, каб кваліфікавалі ім залу на кінасеансы. Затым пісулька з дазволам прыйшла ў ВПК і нам Дабромiль запісалі ў маршрут. Аднак прыходзіла няшмат гледачоў. Таму з кінаперасоўкай заязджалі мы першапачаткова раз на месяц, а пасля нават раз на два месяцы. Затым я прад'явіў у аддзяленне кіно прапанову выкрасліць зусім Дабромiль з маршруту па прычыне недастатковай колькасці гледачоў. Чарговай вёскай былі Кнарыды. Але аб гэтым у чарговым допісе.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**



# http://say.by

Канкурэнцыя ў кожнай галіне чалавечай дзейнасці лічыцца вельмі добрай з'явай, бо наймацней стымулюе да жадання не пакладаць рук і штохвілінна даказваць усім, што ты робіш сваю справу лепш за іншых. Гэта тычыцца і справы пашырэння выкарыстання беларускай мовы. Месяц таму „Ніва" пісала пра сайт http://svaje.by, на якім створаны каталог беларускага бізнесу. А цяпер прыйшла пара распавесці пра канкурэнта дадзенага сайта — партал **https://say.by**, які знаёміць інтэрнэт-карыстальнікаў з месцамі ў Мінску, дзе шануюць беларускую мову. Праўда, „Сваіх" яны не лічаць канкурэнтамі, а толькі сябрамі.

„Мэтаю Say.by з'яўляецца прасоўванне Беларускае Мовы, што й аб'ядноўвае нашу каманду!" — гаворыцца ў рубрыцы „Каманда", выйсце на якую месціцца ўнізе цэлага выяўлення. Паводле размешчанай там інфармацыі, у каманду, якая стварыла дадзены сайт, уваходзяць дзевяць чалавек. Сярод іх — праграмісты, перакладчыкі, дызайнеры. „Рухавік Say.by — Аляксандр Шастаковіч, цяпер ён працуе кіраўніком аддзела па распрацоўцы праграмнага забеспячэння ў адной з мінскіх IT-кампаній", — распавяла ў адным са сваіх выпускаў газета „Наша ніва".

Усе месцы ў Мінску, дзе шануецца беларуская мова і пра якія ведае Say.by, падзелены на 14 галін — „Адукацыя", „Аўтатранспарт", „Выдавецтвы, паліграфія", „Дом і побыт", „Інтэрнэт", „Фінансы, вытворчасць", „Турызм, забавы", „Прыгажосць і здароўе", „Раскоша і антыкварыят", „Галантарэя і аксесуары". Асобнымі выйсцямі з сімваламі пазначаны рубрыкі „Ежа" і „Паліва". „Стваральнікі найперш цяпер зацікаўленыя ў тым, каб развіваць і насычаць раздзел «Ежа». Бо дзе, як ні ў кавярні ці рэстарацыі, канцэнтруюцца людзі", — распавядае „Наша ніва".

Ніжэй справа месціцца карта беларускай сталіцы з пазначанымі на ёй праз геалакацыю вышэйзгаданымі месцамі. Сэрвіс сайта яшчэ і ў тым, што ён, калі вы дазволіце яму даведацца, дзе вы знаходзіцеся, прапануе вам бліжэйшыя магазіны ці аўтазапраўкі, якія рады бачыць і чуць беларускамоўных людзей. Таксама на сайце зорачкамі пазначаны месцы, дзе, пачуўшы ад вас беларускую мову, зробяць вам скідку на свой тавар ці паслугу. Да кожнай фірмы ўказваецца не толькі яе месца знаходжання, але і сайт ці акаўнт у сацыяльных сетках, а таксама даецца невялікі расповед аб ёй.

Акрамя ўласна пазначэння фірм, шануючых беларускую мову, стваральнікі сайта вядуць яшчэ тлумачальна-прапагандысцкую працу, накіраваную на падтрымку беларускамоўных зносін. Яны лічаць недапушчальным, калі нехта крытыкуе чалавека, калі той няправільна вымавіў нейкае слова па-беларуску. „Кожны крытык-моўназнаўца, які чамусьці сам па-беларуску не размаўляе, мае сваім абавязкам зрабіць заўвагу за кожнае «няправільнае» слова", — пішуць яны ў рубрыцы „Чаму нельга крытыкаваць мову", слушна адзначаючы, што аніводная мова ў свеце не гучыць чыста, і зараз самае галоўнае — падтрымаць чалавека, які хоча размаўляць па-беларуску.

Каманда сайта Say.by не жадае абмяжоўваць сваю дзейнасць толькі Мінскам, яны нацэлены на цэлую Беларусь і запрашаюць да сябе тых, хто дапаможа стварыць карту беларускамоўнага бізнесу па ўсёй краіне.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з Календара

Беларускі дзеяч, дыпламат, навуковец



# 80 гадоў з дня гібелі Аляксандра Цвікевіча

Беларускі грамадска-палітычны дзеяч Аляксандр Цвікевіч нарадзіўся 22 чэрвеня 1888 г. (паводле іншых звестках 1883) у Брэсце. Паходзіў ён з сям'і фельчара чыгуначнага шпіталя Івана Цвікевіча. У 1912 г. скончыў Пецярбургскі ўніверсітэт і да 1914 г. працаваў у Пружанах і Брэсце. З надыходам Першай сусветнай вайны ў бежанстве. Працаваў у Тульскім камітэце дапамогі ахвярам вайны. У 1917 г. у Маскве стаў адным з заснавальнікаў і кіраўнікоў Беларускай народнай грамады. Удзельнічаў у працы Першага Усебеларускага з'езду, быў абраны сакратаром прэзідыума, уваходзіў у склад Рады. У студзені 1918 г. Выканкам І Усебеларускага з'езда накіраваў Цвікевіча разам з Сымонам Рак-Міхайлоўскім на мірныя перамовы ў Брэст. Не атрымаўшы дазволу ўдзельнічаць у перамовах асобнай дэлегацыяй, яны былі змушаны ўвайсці ў дэлегацыю Украінскай Народнай Рэспублікі як дарадцы.

У канцы сакавіка 1918 г. быў накіраваны ў Кіеў у складзе надзвычайнай дыпламатычнай місіі. Цвікевіч вырашаў пытанні беларуска-ўкраінскай мяжы, дамагаўся прызнання адроджанай беларускай дзяржаўнасці і перагляду Брэсцкага міру, вёў перамовы з місіямі іншых дзяржаў. Пад яго кіраўніцтвам у Кіеве быў наладжаны выпуск газеты „Белорусское эхо", арганізавана Беларуская гандлёвая палата. У ліпені таго ж года Цвікевіч увайшоў у склад кіраўнічых органаў Беларускай партыі сацыялістаў-федэралістаў.

Вясной 1919 г. урад БНР накіраваў Цвікевіча ў Берлін, дзе ён павінен быў вырашаць фінансавае пытанне. Пасля адмовы германскіх улад выдаць грошы ездзіў у Вену, каб атрымаць частку з іх у аўстрыйскім банку. З 1921 па 1923 год Цвікевіч займаў пасаду міністра замежных спраў ва ўрадзе БНР Вацлава Ластоўскага. Быў старшынёй Першай Усебеларускай канферэнцыі ў Празе, якая адбылася ў верасні 1921 г. У 1922 г. Цвікевіч разам з Ластоўскім зрабілі спробу ўключэння беларускага пытання ў парадак дня Генуэзскай канферэнцыі.

У 1923 г., у сувязі з нязгодай часткі беларускіх дзеячаў з палітыкай урада БНР Ластоўскага, быў сфармаваны новы ўрад БНР ужо на чале з Цвікевічам. На Другой Усебеларускай канферэнцыі ў Берліне ў 1925 пад уражаннем поспехаў палітыкі беларусізацыі ў БССР Аляксандр Цвікевіч прыняў рашэнне пра спыненне дзейнасці Рады Міністраў БНР і прызнанні Менска адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі. У лістападзе Цвікевіч з сям'ёй пераехаў у Мінск, працаваў у Наркамаце фінансаў, вучоным сакратаром у Інбелкульце, у Інстытуце гісторыі Беларускай акадэміі навук.

4 ліпеня 1930 г. быў арыштаваны, абвінавачаны па справе „Саюза вызвалення Беларусі". Асуджаны на 5 гадоў ссылкі. Адбываў яе ў Пярмі, Ішыме, потым у Сарапуле (Удмуртыя). Паўторна арыштаваны 17 снежня 1937 г., а 30 снежня расстраляны ў Мінску. Рэабілітаваны толькі ў 1988-1989 гадах.

Аляксандр Цвікевіч — аўтар шасці манаграфій і брашур, а таксама шматлікіх артыкулаў, эсэ. Найбольш грунтоўная яго праца „Западно-руссизм: Нарысы з гісторыі грамадскай мыслі на Беларусі ў XIX і пачатку XX стст". У ёй аўтар зрабіў аналіз ідэалогіі і практыкі русіфікацыі Беларусі ў перыяд Расейскай імперыі. Фактычна пасля выхаду гэтая кніга была забаронена, а амаль увесь наклад знішчаны. Ацалела толькі некалькі кніг у прыватных зборах, што дало магчымасць перавыдаць яе ў 1993 годзе. У сённяшняй Беларусі імя Аляксандра Цвікевіча не ўшанавана ніяк.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## У Ляўкова пачаў ездзіць аўтобус ПКС!

Не ўсе жыхары Новін, Лазовага, Новага Ляўкова, Старога Ляўкова, Падляўкова, Ахрымоў, Сушчага Барка, Плянты і Гарадзіска Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета ведаюць, што ад пачатку снежня гэтага года ўжо могуць непасрэдна ездзіць у Беласток аўтобусам ПКС. Не ездзіў ён сюдою два гады.

17 снежня г.г. выбраўся я ў Беласток з Новага Ляўкова а гадзіне 5.59 і ў Беластоку быў а гадзіне 7.30. Паехаў я ў разведку. Ехала са мной у Міхалова восем пасажыраў, а ўжо з Міхалова ў Беласток — шаснаццаць.

У той дзень наведаў я сястрыну дачку, якая жыве на беластоцкім жыллёвым пасёлку „Лясная даліна" і рэдакцыю „Нівы". У рэдакцыю якраз прывезлі „Ніву" з календаром на 2018 год. Узяў на продаж у сваёй і ў суседніх вёсках 50 экземпляраў (як іх прадам, вазьму яшчэ столькі). Аўтобус пасля поўдня ад'язджае з вакзала ПКС у Гайнаўку праз Жэдню, Міхалова і Нараўку а гадзіне 15.20.

На вакзал прыехаў перад 15-й. Крыху пасядзеў на лаўцы ў пачакальні новапабудаванага будынка ПКС. Тут працуе пакуль што адна касірка-білецёрка. Не сядзеў доўга на жалезнай з тоўстай бляхі лавачцы (усе тут такія) і мне стала холадна ў задніцу хаця быў у цёплых кальсонах (зіма ж). Пайшоў я шукаць, дзе той 15-ы перон, з якога ад'едзе аўтобус. Цяжка было знайсці. І я прагледзеў усе расклады язды. Дошчачкі з надпісам „15" і іншых нумароў няма. А павінна быць! Вось, як кажуць, шукай ветру ў полі. Навошта людзей стрэсаваць. Гэтак можна аўтобус праваронiць. Шкада, што на новых перонах не ўсё дапрацавана як след. Вадзіцелі аўтобусаў таксама губляюцца. Прыязджаюць не на тыя пероны, што трэба. Пасля цяжка ім выкараскацца, бо ні назад ні ўперад. „Мой" аўтобус ад'ехаў з Беластока згодна з раскладам язды. Было ў ім выгадна, цёпла і прытульна. Найбольш пасажыраў ехала ў Жэдню, Міхалова і ў Плянты. У Новае Ляўкова аўтобус прыехаў а гадзіне 17-й.

На другі дзень я наведаў з „Нівай" дзевяць хат. Усе новаляўкоўцы адразу здагадваліся, што нясу ім беларускі штотыднёвік з календаром. Адна жанчына (яна настаўніца-пенсіянерка) чакала лістаноша. Яна заказала „Ніву" з календаром загадзя раней. Я хадзіў з „Нівай" і інфармаваў, што ўжо маем аўтобус ПКС у Беласток і пра новы вакзал, пра сваю разведку і малыя прыгоды. Жанчыны тэлефанавалі сваім дзецям, якія вучацца або працуюць у Беластоку, а таксама сваім мамам, каб прыехалі да іх у Новае Ляўкова ці ў Плянту. Іх мамы жывуць, між іншым, у Сушчы, Юшкавым Грудзе і ў Бяндзюзе. Ім не было магчымасці прыехаць ПКСам ані іншым аўтобусам, бо тыя сюдою не ездзілі. А цяпер пачалі ездзіць. Гэтага дамагаўся ў ПКСе ніжэйпадпісаны радны і солтыс Новага Ляўкова.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ



## Беларуская ялінка ў Варшаве

Дзіцячае свята «Беларуская ялінка» адбылося 21 снежня ў Варшаве. Дзеці гулялі ў калядныя гульні, а таксама паўдзельнічалі ў інтэрактыўным спектаклі. Гаворыць галоўны аніматар свята, беларуская літаратарка Валярына Кустава: — Прыйшло некалькі дзясяткаў беларускіх дзетак у Беларускі дом. Больш за дзве гадзіны мы бавіліся са святым Мікалаем. Разыгрывалі інтэрактыўны спектакль. Усе па-беларуску, з пачастункамі. З падарункамі. Мне здаецца, галоўнае, што задаволеныя самі дзеткі. Ролі святога Мікалая і злодзея Гаргундзеля выконваў беларускі артыст і драматург Васіль Дранько-Майсюк: — Тут былі дзеці рознага ўзросту: і вялікія, адзінаццаць год, і двухгадовыя. Заўсёды ёсць пэўныя цяжкасці, але мне падаецца, што ўдалося іх захапіць гісторыяй пра выкраданне святога Мікалая, што яго трэба вызваліць з лапаў страшнага чараўніка Гаргундзеля. Удалося аб'яднаць розныя ўзросты дзеля такой святой і гуманістычнай мэты. Калядная імпрэза «Беларуская ялінка» прайшла ў памяшканні Беларускага дому ў Варшаве. Прыкладна каля трыццаці дзетак «шукалі» і «вызвалялі» святога Мікалая. «Ялінка» завяршылася салодкім пачастункам для малых гарэзнікаў.

Эдуард ЖОЛУД,
Беларускае Радыё Рацыя

## ІНП яшчэ раз разгледзіць справу Браніслава Тарашкевіча

«Да гэтай пары невядомыя падрабязнасці ў справе магчымай сустрэчы польскіх і беларускіх гісторыкаў па пытанні дэкамунізацыі вуліцы Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім», — такі адказ атрымала Радыё Рацыя з Інстытута нацыянальнай памяці ў Варшаве.

«Справа ўшанавання Браніслава Тарашкевіча будзе прадметам чарговага аналізу адпаведных аддзяленняў Інстытута нацыянальнай памяці», — паведаміў адказны за сувязі з грамадствам ІНП Яраслаў Тансяроўскі. Радыё Рацыя звярнулася з запытам у ІНП наконт тэрміну сустрэчы польскіх і беларускіх гісторыкаў, пра якую ў сярэдзіне лістапада падчас візіту ў Гародню паведаміў старшыня Інстытута нацыянальнай памяці Яраслаў Шарэк. Прозвішча палітыка і мовазнаўцы Браніслава Тарашкевіча можа знікнуць з назвы вуліцы ў Бельску-Падляшскім у сувязі з дэкамунізацыяй, пасля таго як адпаведная камісія ІНП пад кіраўніцтвам доктара Мацея Коркуця прызнала, што Браніслаў Тарашкевіч з'яўляецца сімвалам камуністычнага рэжыму. Беларускае гістарычнае таварыства накіравала адкрыты ліст да ўлад Польшчы ў абарону імя і годнасці Браніслава Тарашкевіча.

Валянціна ЛАЕЎСКАЯ
Беларускае Радыё Рацыя

## 31.12 — 06.01

**(22.03. — 20.04.)** Варта запісацца на падрыхтоўчыя курсы. Не адцягвайся па дробязях, аднаві баявы дух і працоўны настрой. Не траць часу, аддай яго на прыярытэтныя напрамкі. Задумайся над тым, чаго хочаш, прааналізуй свае магчымасці і патэнцыйныя рэсурсы. Будзь у баявой гатоўнасці, са стараннасцю і напорам прыступі да рэалізацыі планаў, ажыццяўляй свае доўгатэрміновыя планы.

**(21.04. — 21.05.)** Магчымасць прасунуцца па кар'ернай лесвіцы, зрабіць першыя крокі да дасягнення мэты. Блізкія людзі — самыя надзейныя і верныя памочнікі ў рэалізацыі ідэй; дзяліся думкамі аб сваіх планах і мэтах. Зробіш з хобі прафесію, што дазволіць удасканаліць базу ведаў і набрацца практычнага вопыту, набрацца смеласці і зрабіць першы крок. Вынік — прыемна нечаканы. Сустракайся з людзьмі, якія ўжо шмат чаго дасягнулі ў гэтай сферы.

**(22.05. — 22.06.)** Можаш з чыстым сумленнем пачынаць рэалізацыю планаў, імкнуцца да дасягнення новых мэт. Будзе паляпшэнне фінансавага становішча, дзякуючы чаму зможаш істотна пашырыць кола сваіх магчымасцей і ўвасобіць у жыццё многія свае жаданні. Можа запалануеш далёкую паездку або падарожжа. Там усміхнецца поспех! Пазнаёмішся з людзьмі, якія добра паўплываюць на твой светапогляд і стаўленне.

**(23.06. — 23.07.)** Усімі сіламі імкніся дасягнуць жаданую гармонію і стабільнасць у жыцці. Крыху выб'ешся са звыклай каляіны, будзе трохі дыскамфортна, запальчыва і раздражняльна; кантралюй свае эмацыйныя парывы. Ігнаруй правакацыйныя моманты.

**(24.07. — 23.08.)** Паляпшэнне фінансавай сітуацыі і дасягненне стабільнасці. Але не разлічвай на імклівы кар'ерны рост. Лепш не мяняй месца працы або віду прафесійнай дзейнасці. Лепш цяпер не адкрывай свайго бізнесу. Будуць павабныя прапановы, але папярэдне падумай. Накіруй усе сілы і энергію на ўмацаванне дасягнутых пазіцый, наладжванне карысных кантактаў і адносін у калектыве.

**(24.08. — 23.09.)** Час няпросты, але ўсё ж значны перыяд у жыцці. Устане шмат неадкладных пытанняў. Прыліў энергіі і натхненне, вялікая прадуктыўнасць. Можаш набыць уласнае жыллё або зрабіць рамонт. Некалькі сустрэч, якія істотна паўплываюць на твой светапогляд і жыццёвыя прыярытэты; зменіцца сістэма каштоўнасцей. Адна з сустрэч стане лёсавызначальнай. З гэтым чалавекам можа звяжаш свой лёс або ён дапаможа табе дасягнуць поспех у жыцці. Можаш сустрэць былую любоў; пачуцці ўспыхнуць ізноў.

**(24.09. — 23.10.)** Без асаблівых падзей. Сюрпрызаў не прадбачыцца. Удзел у святах, масавых гуляннях. Час правядзеш бесклапотна, атрымліваючы асалоду ад сустрэч. Пасля патрэбная засяроджанасць і ўвага. Трэба падвесці вынікі мінулага года, прааналізаваць дасягненні, перамогі і няўдачы, правесці работу над памылкамі і скласці план на бліжэйшы месяц і год. Не дапусці папярэдніх памылак. Правядзі аналітычную працу і дакладна пералічы будучыя хады.

**(24.10. — 22.11.)** Выпрабуеш на сабе добразычлівасць зорак. Поспех будзе проста наступаць на пяткі. Станеш актыўна выкарыстоўваць дадзеныя акалічнасці з максімальнай выгадай. Неадкладна прыступіш да рэалізацыі сваіх планаў — менавіта ў студзені маеш усе магчымасці дасягнуць значна больш, чым планаваў. Шэраг цікавых і павучальных падзей. Будзеш круціцца і ўсюды з усім паспяваць.

**(23.11. — 22.12.)** Час поўны прыемных падзей, але будзе нямала цяжкасцей. Варта разлічваць выключна на ўласныя сілы і не спадзявацца на шанцаванне або ўдачу. Рацыянальна разлічвай сілы і стаў перад сабой толькі рэальныя мэты. Прыйдзецца нямала папрацаваць, прыкласці максімум намаганняў, каб заслужыць тое, да чаго імкнешся і пра што марыш.

**(23.12. — 20.01.)** Студзень шматабяцальны ў сферы кар'ернага росту і фінансаў, сям'і і адносін. Шмат творчых праектаў, дзякуючы якім максімальна раскрыеш свой патэнцыял, пашырыш свае гарызонты для будучых дасягненняў, кола інтарэсаў і круг зносін, і жыццё стане цікавейшым.

**(21.01. — 19.02.)** Нямала выпрабаванняў, пераадолеўшы якія будзеш атрымліваць асалоду ад вынікаў працы. Не здавайся, будзь верным перакананням і жыццёвым прынцыпам. Не хвалюйся складанасцямі. Стаўся да цяжкасцей мудра, з разуменнем. Гэта будзе своеасаблівы жыццёвы ўрок. Шмат прыемных падзей, адна з якіх — паездка з каханым чалавекам.

**(20.02. — 21.03.)** Знамянальны перыяд. Можа паступіць прывабная прапанова, на якую ўскладаюцца вялікія надзеі. Пагадзіўшыся на яе, зможаш задаволіць свае фінансавыя пытанні і мноства спадарожных праблем. Але сто разоў падумай, каб не застацца ля разбітага карыта. Ды лепш зрабіць і шкадаваць, чым шкадаваць аб выпушчаных шанцах. Набярыся адвагі, засяродзься і прымі правільнае рашэнне. Спадзявайся і на сваю інтуіцыю. Спрыяльнае размяшчэнне планет забяспечыць табе поспех і шанцаванне ва ўсіх пачынаннях. Выдатны час для паспяховых праектаў, навучання і стварэння сям'і.

Агата АРЛЯНСКАЯ

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. насякомае з джалам, якое бярэцца ў... пасазе = 18 _ 19 _ 15 _;
2. там пералётным птушкам узімку... рай = 10 _ 11 _ 3 _ 38 _ 39 _;
3. сын прадзеда = 14 _ 40 _ 2 _ 36 _;
4. грашовая адзінка ў Славакіі = 16 _ 35 _ 33 _ 34 _;
5. жыве ў цэлібаце на плябаніі = 23 _ 6 _ 26 _ 27 _ 24 _ 25 _;
6. крайні пункт сушы, які выходзіць у мора ў... каромысле = 42 _ 43 _ 30 _;
7. злучаная з Мухаўцом Каралеўскім каналам = 12 _ 41 _ 37 _ 13 _;
8. пастава цела або прытворства = 32 _ 20 _ 17 _ 31 _;
9. дачка Рагвалода, маці Яраслава Мудрага = 21 _ 22 _ 9 _ 7 _ 8 _ 28 _ 29 _;
10. востраканцовы выступ, напрыклад на сцябле ружы = 4 _ 5 _ 1 _.

(ш)

1 2 3 4 5 | 6 7 8 9
10 11 12 13 14 15 16
17 18 | 19 20 21 22 23 | 24 25 26 27
28 29 | 30 31 32 33 34 35 36 37 38 39
40 41 42 43

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 50 нумара**

Меч, атавізм, Хірасіма, баяністка, зло, мі, рогат, Буш, бэз, таварыш.

Рашэнне: **Зіма ліха, а без зімы яшчэ горш**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00} – 18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# Каму ехаць?



■ Пераезд бельска-кляшчэлеўскай шашы

Калі нейкіх дваццаць гадоў таму ў выніку дэмаграфічных працэсаў быў спынены рух цягнікоў на лініі паміж Бельскам і Гайнаўкай, здавалася, што чыгуначны рух на гэтым адрэзку кане ў Лету. Вёскі, асноўныя пастаўшчыкі пасажыраў, сталі абязлюджвацца, частка вясковага насельніцтва абзавялася ўласным транспартам. Чыгуначнае палатно паволі зарастала ўсялякай раслціннасцю, стаў там фармавацца спецыфічны біятоп, выраслі не толькі густыя кусты, але і дзенідзе дрэвы. На прыпынку Арлянка вырас цалкам ураджайны яблыневы садок. І здавалася, што на чыгуначным палатне ўцарылася прырода, што чалавек туды ўжо не будзе ўмешвацца, што вырасце там свайго роду адмысловы прыродны рэзерват.

Жыццё без нечаканасцей пэўна было б нуднаватае, але ж нечаканасці, гэта такія спецыі, якія быццам соль ці перац у кулінарыі прыдаюць нашаму зямному бытаванню апетытную смакату. І такой нечаканасцю была, прынамсі мне, вестка пра абнаўленне чыгуначных ліній вакол Бельска. Адрэзак з Беластока ў Чаромху быў мадэрнізаваны як частка большага праекта Усходняй чыгуначнай магістралі, якая мае злучыць Ольштын, Беласток, Люблін, Кельцы і Жэшаў; гэты праект крыху нагадвае веласіпедны шлях GreenVelo па той жа тэрыторыі... Адрэзак між Леўкамі і Гайнаўкай пад гэтую схему не падыходзіў, але ж пасля завяршэння мадэрнізацыі лініі між Бельскам і Чаромхай пявіліся сімптомы скорай мадэрнізацыі згаданага адрэзка ў напрамку Белавежскай пушчы, які, па сутнасці, быў пракладзены цягам няпоўных двух месяцаў сто дваццаць гадоў таму для царскіх паездак з Пецярбурга ў Белавежу...

Падаюся ў кароткую вандроўку па да нядаўна шчыльна зарослым чыгуначнай флорай насыпе. З яго ўжо выкарчавана амаль уся расліннасць, а з той расліннасцю напэўна выбыла і частка сфармаванага ў сучасную эпоху тоненькага жывёльнага свету. Маглі тут ужо сфармавацца эндэмічныя арганізмы, якія маглі б выклікаць цікавасць даследчыцкага авангарда і прынесці новыя навуковыя адкрыцці, магчыма эпахальнай значнасці. Узяць бы, для прыкладу, зрослы з рэйкамі ялінавы камель — хто ведае, ці не сінтэзаваліся на іх зросце хімічныя рэчывы, важныя для прамысловасці ці медыцыны. Аднак тут усе прыснулі, асабліва ж экалагічныя заўзятары, якія цяпер так бойка бароняць зусім недалёкую Белавежскую пушчу...

На дарожных пераездах кускі рэек выкінуты дзеля выгады вадзіцеляў аўтамашын, напрыклад на пераездзе бельска-кляшчэлеўскай шашы. Такім, відаць, цалкам нядаўна здаваўся быць лёс гэтага чыгуначнага адрэзка пабудаванага каліcь для найвышэйшых эліт, для манархаў. Здавалася, што іх чыгунка выводзіцца за ўсялякія рамкі зацікаўлення, саступаючы месца эмацыянальным вектарам манархаў ды прынцаў і прынцэс, якім адводзяцца шматлікія старонкі каляровай прэсы. Ды ўсяму таму, што лёгка прыцягвае ўвагу выгаднага сучаснага чалавека.

На мадэрнізацыю 26-кіламетровага адрэзка Леўкі — Гайнаўка прызначаецца амаль сто мільёнаў злотаў, дзве трэці з іх будзе паходзіць з дафінансавання ад ЕС. Вось гэты Еўрасаюз здаецца быць тым Дзедам Марозам, які прыпаднёс нашай забыванай апошнімі дзесяцігоддзямі тэрыторыі такі неспадзяваны падарунак.

Па выкарчаваным чыгуначным палатне лёгка хадзіць. Даходжу да прыпынку Леўкі. А перада мною на перон прыпынку завітвае жанчына звышсярэдняга ўзросту, па ўсім відаць тутэйшая, а за ёю валачэцца чорны кот. І тая жанчына доўга-доўга разглядае прыпынкавы стэнд, а кот верціцца то туды, то сюды, быццам яе некуды падганяў. Аднак кабета заўзята нешта разглядае, быццам чакаючы нейкага майго ходу-адыходу. І крыху пачынае мне здавацца, што я замінаю нейкаму ейнаму містычнаму праекту...

Чаго ж тая жанчына ўпарта прыліпла да інфармацыйнага стэнда, быццам там, на невялічкім прыпынку, запісаны нейкія касмічныя інфармацыі? І той кот — чорны? Чорныя ж каты лічацца спадарожнікамі, далікатна кажучы, гадалак; а менш далікатна — чараўніц. А ёсць і менш далікатныя словы... „В Средневековье было распространено мнение о том, что черный кот — помощник ведьм в их злокозненных происках. Это поверье привело к тому, что черных и других котов начали убивать, и во время эпидемий чумы кошек почти не осталось — соответственно, ловить мышей, переносчиков болезней, было некому... Все эти предрассудки привели в конечном итоге к закреплению негативного образа кошек в целом и, особенно, черных котов. Иногда стремление к их уничтожению принимало причудливые формы. К примеру, в проектах немецкого ученого и изобретателя Атаназиуса Кирхера можно найти своеобразный музыкальный инструмент — котопианино. Оно состояло из нескольких кошек, закрепленных внутри инструмента, а их хвосты были вытянуты в клавиатурный отсек. Хвосты котов с разными тонами мяуканья помещались в отдельные ячейки. Специальные рычаги тянули котов за хвост при нажатии на клавишу, в следствии чего те истошно вопили, создавая незамысловатые мелодии. Считалось, что такой инструмент может помочь в лечении меланхолии, так как отвлекал больных ею от постоянного уныния и оживлял обстановку. До сих пор ходят слухи о том, что в 1549 году Филипп II, король Испании, наслаждался музыкой кошачьего пианино, а Петр I даже заказал себе такой инструмент для Кунсткамеры...”.



■ Прыродна-чыгуначны сімбіёз

Калі пра каты пайшла мова, то варта яшчэ дадаць, што, паводле фелінолагаў, чорныя каты забіраюць ад людзей адмоўную энергію, даруюць уласнікам мудрасць і празорлівасць. Рыжыя каты прыносяць у дом багацце, але калі іх занядбоўваць, тады могуць задзейнічаць у адваротным напрамку. Белыя каты дараць людзям красу і зацікаўленне другога полу...

Пара вяртацца на прыпынак у Леўках. Мяне турбуе пытанне, як дайсці ў Бельск, з якім хачу звярнуцца да тае тутэйшае жанчыны, якая, як можа падацца, хоча захаваць за сабою нейкую тайну. Колькі ж можна чакаць? Падыходжу і даведваюся, што да жвіроўкі, якая вядзе ў Бельск ад Падбелля, праходу з прыпынку няма, затое можна дабрацца ў горад па чыгуначным палатне. Гэта нават выгадна, бо побач пуці ўезджаная пракладваючымі новыя рэйкі машынамі дарожка. І гэтай дарожкай, крыху далейшымі бездарожкамі, а пасля традыцыйнай веласіпеднай сцежкай дабіраюся да моста на Белай, з якога выхад на вуліцу Таровую, на пешаходную кладку над пуцямі, і на вакзал.

У пачакальні пуста, прыбіральніца акурат прыбірае падлогу. Наракае на маладое хуліганства, якое ў сваіх фізкультурніцкіх парывах дэвастуе вакзальны інтэр'ер. Інфармуе мяне, што навесну вакзальны будынак будзе раскіданы і на ягоным месцы будзе ўзведзены новы...

Прыгадваюцца мне два драўляныя вакзальныя часовыя будынкі звыш паўвекавой даўнасці, у якіх тоўпілася процьма народу. І чаканне, што будзе ўзведзены нейкі прыстойны вакзал. Узвялі яго — на падлозе нават вымашчана дата тае падзеі: 1990. Значыць — будынку ўжо дваццаць сем гадоў. І — даволі. Больш-менш такога самага ўзросту быў аўтобусны вакзал у Беластоку, калі яго раскідалі, узводзячы на яго месцы новы. Такой жа старасці вакзальныя будынкі ў Гайнаўцы і Чаромсе, якія таксама былі ўзведзены без дэмаграфічнай празорлівасці; мабыць планавікамі, у якіх не было чорных катоў. Затое царскія вакзальныя будынкі — у Беластоку і Кляшчэлях — вытрымалі выпрабаванне адведзеным ім часам. І калі б не ваеннае ліхалецце, то і ў Бельску захаваўся б царскі вакзал і не было б патрэбы ганяцца за ўсё новымі, быццам маладому кату ў яго фізкультурніцкіх парывах за сваім хвастом...

Побач пустога вакзальнага будынка на адпраўную стаянку пад'язджае аўтобус; заглядаю ці не ў Беласток ён. Не, у Гайнаўку. Ад'язджае, не забіраючы ніводнага пасажыра; можа каля Міхайлаўскай царквы каго забярэ... А калі, магчыма, будуць запушчаны з Бельска ў Гайнаўку цягнікі, дык адкуль жа брацъ для іх пасажыраў?.. З Блізкага Усходу?

А можа з Захаду. На радзіме Апанаса Кірхера зараз на пакінутыя чыгуначныя пуці ўводзяцца дрызіны для турыстаў. У свеце выдумана мноства мадэляў дрызін — ад невялічкіх аднаасобных рэйкавых веласіпедаў з нажным або ручным прыводам, да вагончыкаў для дзесяці пасажыраў з механічным прыводам. Сілаю сваіх мышцаў такую машыну можна разагнаць нават да трыццаці кіламетраў у гадзіну; за такі час можна было б перамясціцца з Бельска ў Гайнаўку... Магчыма, што задумнікі абнаўлення гайнаўска-бельскай лініі кіраваліся дрызінавай празорлівасцю...

І яшчэ, згадваючы пра дрызіны, адна вестка з радзімы Апанаса Кірхера, за савецкай прэсай 1928 года: „По сообщению агентства Вольфа, испытание первой ракетной дрезины, действующей отдачей взрывающихся газов, окончилось неудачей. Дрезина была построена германской автомобильной фирмой Опель и представляла собой продолжение опытов с ракетным автомобилем, который недавно был испытан на берлинском автодроме. Первый рейс, с уменьшенным числом ракет и без водителя, дрезина прошла удачно. При второй попытке число ракет и заряд пороха были увеличены в четыре раза. Попытка окончилась неудачей; дрезина была разбита”.

Песімістычна напісалася мне пра гэты невялік кусок нашай чыгункі. Няма ў мяне зараз чорнага ката, магчыма, што няма і празорлівасці. Магчыма, што павінен тут з'явіцца ўсё-такі нейкі аптымізм...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 53